# БЕЛАРУСЬ



## У МАЛЮНКАХ НАПАЛЕОНА ОРДЫ

*Другая палова XIX стагоддзя*

# БЕЛАРУСЬ



**Палац Сапегаў**
*г.п. Ружаны,*
*Пружанскі раён,*
*Брэсцкая вобласць*

**Sapega's Palace**
*Ruzhany township,*
*Pruzhany district,*
*Brest region*



**Краявід мястэчка**
*г.п. Свіслач,*
*Гродзенская*
*вобласць*

**Township Landscape**
*Svislach township,*
*Grodna region*

# У МАЛЮНКАХ НАПАЛЕОНА ОРДЫ

## Другая палова XIX стагоддзя

**Belarus in pictures of Napoleon Orda**

*Second part of XIX century*

Мінск «Ураджай»
2001

**Напалеон ОРДА –**
***пясняр беларускай старажытнасці***



# ТАЛЕНТ, АДДАДЗЕНЫ РАДЗІМЕ

Напалеон Орда на шматлікіх сваіх малюнках адлюстраваў непаўторную жывапісную панараму Беларусі з яе прыгожымі архітэктурна-ландшафтнымі краявідамі, творамі дойлідства — гарадской, местачковай і вясковай забудовай, храмамі і палацамі. Мастацкая спадчына Орды ўяўляе сабой абагульнены вобраз Радзімы, ілюстраваную энцыклапедыю матэрыяльнай культуры.

Нарадзіўся Напалеон Орда 11 лютага 1807 г. у радавым маёнтку Варацэвічы Пінскага павета Мінскай губерні (цяпер вёска ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці) у сям'і маршалка шляхты Кобрынскага павета, інжынера-фартыфікатара Міхаіла Орды.

Атрымаўшы пачатковую адукацыю дома ад бацькоў, Орда далейшую вучобу працягваў у Свіслацкай гімназіі, якую паспяхова скончыў ў 1823 г.

У тыя часы буйнейшым адукацыйным цэнтрам, асяродкам вольнай дэмакратычнай думкі з'яўляўся славуты Віленскі універсітэт, куды адразу пасля гімназіі паступае Орда на фізіка-матэматычны факультэт. Навучанне давалася лёгка, выкладчыкі адзначалі яго выдатныя здольнасці. Але універсітэт здольны студэнт не скончыў — у 1827 г. быў адлічаны за прыналежнасць да тайнага студэнцкага таварыства «Заране», члены якога марылі аб незалежнасці Рэчы Паспалітай, і тым самым падзяліў лёс з Адамам Міцкевічам, Томашам Занам, Янам Чачотам, Ігнатам Дамейкам. Пасля арышту і 15-месячнага турэмнага зняволення вяртаецца ў родныя Варацэвічы, але застаецца пад наглядам паліцыі і самастойна завяршае сваю адукацыю.

Сфарміраваная ва універсітэце рэвалюцыйна-вызваленчая палітычная арыентацыя Орды да аднаўлення Рэчы Паспалітай рэалізавалася ў час паўстання 1830–1831 гг. Ён прымае ў ім актыўны ўдзел як стралок чацвёртага палка коннай гвардыі Літоўскага корпуса ў Каралеўстве Польскім і нават вызначаецца ў бітве пад Коцкем і атрымлівае вышэйшую ўзнагароду — ордэн Залатога крыжа (Virtuti Militari) і чын капітана паўстанцкай арміі. Пасля падаўлення паўстання ў 1831 г. вымушаны эмігрываваць і накіроўваецца праз Аўстрыю і Швейцарыю ў Італію. У 1833 г. пераязджае ў Парыж — тагачасны цэнтр рэвалюцыйна-дэмакратычнай эміграцыі.

Атмасфера Парыжа з яго бурлівым культурным жыццём, мастацкай і навуковай багемай паўплывала на развіццё шматбаковых здольнасцей творчай натуры Напалеона Орды, які ўжо вызначыў для сябе прафесійную цікавасць і арыентацыю да музыкі і жывапісу. Музычнае майстэрства ўдасканальваў у Фрэдэрыка Шапэна. Дасягнуў у гэтай галіне грунтоўных поспехаў. Яго музычныя творы (паланэзы, вальсы, сэрэнады, мазуркі), якія вызначаюцца меладычнасцю, драматызмам, віртуозным стылем, багаццем фактуры, лірычнасцю, былі ўхвалены Ф. Шапэнам, Ф. Лістам і С. Манюшкам. Н. Орда ствараў рамансы і песні на словы С. Вітніцкага і А. Плуга, выдаў «Альбом твораў польскіх кампазітараў» (1838), «Граматыку музыкі» (Варшава, 1873). У сярэдзіне 1840-х гг. быў дырэктарам Італьянскай оперы ў Парыжы.

Вызначыўся Орда і ў галіне літаратурнай дзейнасці: пісаў артыкулы пра выдатных людзей і цікавыя мясціны, у 1856 г. выдаў польска-французскі падручнік. У 1839 г. Н. Орда прыняты членам Польскага гістарычна-літаратурнага таварыства.

У Парыжы Орда атрымоўвае мастацкую адукацыю ў студыі вядомага майстра архітэктурнага пейзажа П'ера Жэрара, які і вызначыў яго мастацкі жанр. Сферай яго мастацкай зацікаўленасці становіцца археалогія і архітэктура. Малюнак для Орды з'яўляецца не толькі творам мастацтва, але і гістарычным дакументам, у якім фіксуюцца каштоўныя архітэктурныя помнікі. Таму свае малюнкі суправаджае гіста-

рычнай анатацыяй, імкнецца зафіксаваць уладальнікаў сядзіб і палацаў, прыналежнасць культавых будынкаў адпаведнай канфесіі, гады будаўніцтва, фундацыі і інш. У яго творах яскрава прасочваецца жаданне данесці свае знаходкі і ўражанні ад вандраванняў да гледача.

У 1856 г. пасля абвяшчэння царскім урадам амністыі палітычным эмігрантам, Напалеон Орда ў 49-гадовым узросце вяртаецца ў родныя Варацэвічы. У 1862–1863 гг. жыве ў Гродне, потым на некаторы час пасяляецца ў Пінску. Каб забяспечыць сваё матэрыяльнае становішча, працуе хатнім настаўнікам музыкі ў генерала Адама Ржавускага на Валыні.

У вольныя ад працы месяцы Н. Орда шмат падарожнічае па Беларусі, Літве, Польшчы і Украіне. У час сваіх вандровак робіць замалёўкі архітэктурных і гістарычных помнікаў, гарадоў і мястэчак, славутых мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю знакамітых людзей. Вынікам гэтых вандраванняў з'явіўся аграмадны збор мастацкіх твораў, гэта больш за 1150 малюнкаў, з якіх каля 200 прысвечаны менавіта Беларусі.

Для сваёй творчасці Н. Орда выбраў тэхніку алоўкавага малюнка, падмаляванага акварэллю, гуашшу ці сепіяй, якой дасканала валодаў. Менавіта гэта тэхніка малявання дазваляла аператыўна і найбольш дакладна адлюстраваць натурны архітэктурны краявід ва ўмовах падарожжа. Краязнаўцам быў выбраны адзіны фармат паперы (даўжыня каля 30 см), наклеенай на планшэтку.

Асаблівую ўвагу Орда надае адлюстраванню на сваіх малюнках шэрагу сядзіб і памятных мясцін, якія звязаны з імёнамі славутых дзеячоў культуры: А. Міцкевіча (сядзібы ў Завоссі, Туганавічах), М. Агінскага (палац у Рэтавасе на Літве), С. Манюшкі (сядзіба ў в. Убель), І. Ходзькі (сядзіба ў в. Дзевятня на Літве), У. Сыракомлі (сядзіба ў Смольгаве), А. Плуга (сядзіба ў в. Жукаў Барок) і інш.

Двойчы ў 1860 г. замаляваў Орда і месца свайго нараджэння, родную сядзібу Варацэвічы. На малюнках адлюстраваны аднапавярховы прамавугольны ў плане драўляны дом на дзве палавіны, з традыцыйным чатырохкалонным порцікам-ганкам па цэнтры франтальнага фасада, невялікай мансардай над ім. Перад домам парадны двор, за ім пейзажны парк. Такая сядзіба дробнапамеснага шляхціца была тыповай і найбольш распаўсюджанай на Беларусі, пра што зноў-такі сведчаць і іншыя малюнкі Орды. Здаецца, што сэрцу мастака бліжэй менавіта гэтыя ўтульныя фальваркі са сціплым жыллём, паркавымі прысадамі, гаспадарчымі пабудовамі.

Серыя малюнкаў Н. Орды з'яўляецца абагульненай ілюстрацыяй беларускай вёскі сярэдзіны XIX ст., на якой народнае драўлянае дойлідства перададзена мастаком з вялікай трапнасцю і захаваннем нацыянальнага каларыту. Перад намі паўстаюць маляўніча раскінутыя ўздоўж рэк і азёр беларускія паселішчы з хатамі, накрытымі саламянымі стрэхамі, з драўлянымі храмамі і званіцамі, млынамі і ветракамі, калодзежамі-жураўлямі і іншымі вясковымі збудаваннямі.

Але найбольш шырока ў творчасці мастака прадстаўлена гарадская архітэктура (больш за 30 малюнкаў). Па шэрагу гарадоў створана шырокая панарама шматстылёвай мураванай забудовы XIX ст. У гэтай серыі малюнкі гарадоў Гродна, Віцебска, Мінска, Магілёва, Полацка, Пінска, Навагрудка, Нясвіжа, Турава, Свіслачы і інш. На малюнках Орда амаль ніколі не абагульняў гарадскую забудову — кожны будынак надзелены вызначанай індывідуальнай характарыстыкай, вулічныя панарамы пададзены з вострых ракурсаў з вылучэннем архітэктурных дамінант.

З асаблівым замілаваннем перад сівой мінуўшчынай Орда замалёўвае старажытныя замкі, многія з якіх ужо ў той час ляжалі ў руінах. На двух малюнках зафіксаваны сусветна вядомы помнік абарончага дойлідства — Камянецкая вежа ў сваім першапачатковым выглядзе без пазнейшай рэстаўрацыі і атынкоўкі. З рамантычнай настальгіяй мастак адлюстроўвае Стары і Новы замкі ў Гродна, замкавую рэзідэнцыю Ільінічаў у Міры. На малюнках Орды мы бачым старажытныя беларускія замкі ў Крэве, Геранёнах, Лідзе, Навагрудку, Каралі-не пад Пінскам і іншыя.

З эстэтычным пачуццём і некаторым рамантызмам замалёўвае Орда шматлікія магнацкія палацы і шляхецкія сядзібы з іх знешнім лоскам, раскошай і рэпрэзентацыйнасцю. Зацікаўленае дахіленне мастака да старасвецкіх маёнткаў тлумачыцца і тым, што яны з'ўляліся

ў свой час культурнымі асяродкамі са шматлікімі зборамі твораў мастацтва, кнігазборамі, архіўнымі сховішчамі, археалагічнымі і зброевымі калекцыямі. На малюнках Орда адлюстраваў асноўную годнасць гэтай галіны будаўнічага мастацтва – арганічную сувязь манументальнага будынка з прыродным і паркавым асяроддзем, без якога малюнкі страцілі б свой мастацкі сэнс. У шматпланавы краявід уключающца рэкі, азёры, сажалкі, пад'язныя дарогі і алеі. Такой падачай выдатных мясцін вызначаюцца віды сядзіб і палацаў у Буйнавічах, Вялікім Мажэйкаве, Дзятлаве, Альбярціне, Дзярэчыне, Высокім, Гарадзеі, Дашкоўцы, Гародні, Бешанковічах і інш.

Серыя малюнкаў Орды ахоплівае шырокі арэал культавай архітэктуры Беларусі ад глыбокай старажытнасці да сярэдзіны XIX ст., ад магутных касцельных манументаў у Нясвіжы, Гродне, Віцебску да сціплых вясковых драўляных храмаў і каплічак у Бездзежы, Беражніцы, Брашэвічах, Моладаве, Анопалі.

Мастацкая спадчына Напалеона Орды – выдатная ілюстрацыя стылявога развіцця архітэктуры Беларусі. Сярэдневяковую готыку да нас даносяць малюнкі Фарнага касцёла ў Гродне, Барыса-Глебскай царквы ў Навагрудку, касцёлаў у Гнезна, Ішкальдзі, Койданаве. Дойлідства старажытнарускага перыяду прадстаўлена малюнкамі Барыса-Глебскай царквы ў Гродне, Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку.

Маладаследаваная архітэктура рэнесансу прадстаўлена домам-крэпасцю ў Гайцюнішках, замкам у Міры.

Барока і ракако адлюстравана на малюнках помнікаў палацава-сядзібнай архітэктуры ў Ружанах, Дзятлаве, Станіславове. Іх архітэктура вылучаецца скульптурнай пластычнасцю з выкарыстаннем ламаных дахаў, узвышаных гранёных рызалітаў з балконамі і фігурнымі франтонамі, пілястравай крапоўкай фасадаў, высокімі вокнамі ў пластычных ліштвах. Шэдэўры культавай архітэктуры барока мастак-вандроўнік знаходзіць у Смілавічах (кляштар місіянераў), Полацку (касцёл езуітаў), Нясвіжы (кляштар бенедыкцінак), Слуцку (Троіцкі манастыр базыльян у Трайчанах), Дзярэчыне (дамініканскі касцёл) і ў шмат іншых беларускіх мясцінах.

Найбольш ярка Орда праілюстраваў стыль класіцызму і ампіру ў архітэктуры Беларусі – палацы ў Альбярціне пад Слонімам з ампірнымі скульптурамі львоў пры ганку-порціку, Дзярэчыне, Грушаўцы, Паланечцы, Снове, Жылічах.

Не менш цікавымі лічыць мастак і тагачасныя будынкі, выраўшаныя ў стылі гістарызму ці эклектыкі. Палацы і сядзібы гэтага часу вылучаліся індывідуальнасцю і непаўторнасцю, рэтраспектыўным выкарыстаннем стыляў мінулых гістарычных эпох. Так званы «замкавы стыль», у якім выкарыстоўваліся ў якасці дэкору формы крапасной архітэктуры — крэмальеры, вокны-байніцы, гранёныя і цыліндрычныя вежы — дэманструюць сядзібы ў Масалянах, Дзевяткавічах, Астрашыцкім Гарадку. Мастак праз малюнкі нагадвае нам, што ў той час распаўсюджваецца стварэнне пры гаспадскім доме зімовага сада, зашклёнае памяшканне якога прыбудоўваецца да дома (сядзібы ў Дукорах, Панямуні), ці ствараецца ў асобным збудаванні (Туганавічы). Звяртанне да форм готыкі назіраем на малюнку сядзібы ў Прылуках.

Свае малюнкі Н. Орда сістэматызаваў і расклаў па папках, у якіх сабраны творы за перыяд 1840—1880 гг. Беларускі матэрыял змешчаны ў папках па Гродзенскай губерні (1860—1877 гг., 144 планшэты), Мінскай губерні (1864—1876 гг., 64 планшэты), Віцебскай губерні (1875—1876 гг., 35 планшэтаў), Віленскай губерні (1875—1877 гг., 50 планшэтаў), Магілёўскай губерні (1877 г., 15 планшэтаў). Акрамя гэтага мастак вылучыў «парцфелі» з малюнкамі па Валынскай, Кіеўскай, Падольскай, Ковенскай губернях, Княству Познаньскаму, Заходняй Прусіі і Галіцыі, Францыі і Германіі, Іспаніі і Партугаліі. Найбольш гістарычна каштоўныя малюнкі Орды тыражыруюцца ў гравюрах шматлікіх перыядычных гісторыка-краязнаўчых выданняў (у польскім часопісе «Тыгоднік ілюстраваны» пад рубрыкай «З папкі Напалеона Орды»).

З 1873 г. Напалеон Орда распачаў не менш манументальную справу — выданне ўласным коштам «Альбома відаў гістарычных польскіх» («Album Widoków Historycznych Polski»). Аднак было выдадзена толькі 260 малюнкаў-літаграфій у васьмі серыях (каля 120 па беларускіх губернях), гравіраваных на камені Алаізам Місеровічам у літаграфічным камбінаце Максімільяна

Фаянса ў Варшаве. Прычынамі няпоўнага выдання творчай спадчыны мастака з'явіліся недахоп фінансавых сродкаў у збяднелага роду Ордаў і перашкоды, якія рабіла цэнзура (малюнкі адзначаны дазволам на друк пячаткай цэнзара).

Большасць малюнкаў Орды (977 планшэтаў) знаходзіцца ў Народным музеі ў Кракаве, куды яны трапілі ў 1886 г. як ахвяраванне родных памёршага мастака (1883). Частка малюнкаў маецца ў Народным музеі ў Варшаве, альбом акварэляў захоўваецца ў бібліятэцы імя В. Стэфаніка ў Львове. Вялікая калекцыя літаграфій з малюнкаў Н. Орды захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У гэтым альбоме акрамя малюнкаў, якія друкаваліся ў розных выданнях, выкарыстаны ў асноўным усе літаграфіі па Беларусі з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі. У падборы іх вялікую дапамогу аказалі супрацоўнікі аддзела рукапісаў рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Т. У. Рошчына і В. У. Лісянкова, за што аўтарыўкладальнікі шчыра дзякуюць ім.

Малюнкі Н. Орды з'яўляюцца не толькі мастацка значнымі творамі, але і каштоўнай крыніцай па гісторыі архітэктуры Беларусі. Дзякуючы гэтым малюнкам Орды мы і цяпер уяўляем, як выглядалі многія архітэктурныя помнікі і мясціны, што знішчыліся або непазнавальна змяніліся. Няма ўжо цудоўных старасвецкіх сядзіб і палацаў у Моладаве, Асвеі, Беніцы, Варончы, Закозелі, Дзярэчыне, Лагойску, Дубаі, зруйнаваны кляштары і касцёлы — шэдэўры архітэктуры барока — картэзіянцаў у Бярозе, базыльян у Беразвеччы, кармелітаў у Бялынічах, дамініканцаў у Валынцах і шмат іншых. Беларусь у малюнках Напалеона Орды паўстае як фенікс з попелу, вырастае светлымі абрысамі архітэктурных святыняў.

Жыццё і творчая дзейнасць Напалеона Орды – яскравая старонка гісторыі нацыянальнай культуры. Сціпласць і бескарыслівасць, разнастайнасць высакародных інтарэсаў, незвычайная шматгранная таленавітасць, няспынная цікавасць да лёсу роднага краю — усё гэта якасці чалавечай постаці буйнога асветніка і мысліцеля Беларусі XIX ст. І толькі на рубяжы XXI ст. мы пачынаем усведамляць, чаго варты наш суайчыннік Напалеон Орда.

У 1997 г. у г. Іванава яму ўстаноўлены помнік, выкананы скульптарам І. Голубевым.

Выданне гэтага альбома няхай з'явіцца своеасаблівай данінай павагі і ўдзячнасці Напалеону Ордзе за яго нястомную і вялікую працу на карысць беларускай культуры.

*А.М. Кулагін*

# TALENT DEVOTED TO THE NATIVE LAND

On most of his pictures Napoleon Orda reflected the unique picturesque panorama of Belarus — its marvelous landscapes and wonderful pieces of urban, township and rural architecture; its churches and palaces. Artistic heritage of Orda generates the image of his native land, which seems an illustrated material culture encyclopedia.

Napoleon Orda, a son of Polish gentleman from Kobrin district Mikhail Orda, who was a fortification engineer, was born on February 11, 1807, in a family manor named Varatsevichy, situated in Pinsk district (Minsk region), which is now a village in Ivanov district (Brest region).

Orda got his primary education at home — from the parents, then he continued further studies at Svislach Gymnasia which he successfully finished in 1823.

Right after that, Orda entered Vilnya University, and became a student at the department of physics and mathematics. At those times, this famous University was the biggest educational center, a spotlight of liberal democracy. Though studying at the University came easily to him and professors marked his outstanding abilities, Orda — a gifted student — did not graduated from the University successfully. In 1827 he was sent down from the department because he was exposed as a member of secret student society "Zaranie" (the Dawnbreakers). Members of this society — among whom there were such outstanding personalities as Adam Mickevich, Tomas Zan, Ian Chachot, Ignat Domeiko — dreamed of independence for Rzech Pospolita. After his arrest and 15-month detention, Orda came back to the native village of Varatsevichy, where he, however, stayed under police supervision. There he finished his education.

In the revolt of 1830—31, Orda fulfilled his revolutionary liberation intents brought up during his studies at the University. He took an active part in that revolt as a rifleman of Cavalry regiment 4, the Lithuanian Corps in Polish Kingdom. Battle at Kotske was a success for him — then he received a high award — Golden Cross Decoration (Virtuti Militari) — and was appointed a captain of rebel army. In 1831, after the revolt was suppressed, Orda had to emigrate to Italy, across Austria and Switzerland. In 1833 he moved to Paris. At those times Paris was a center of revolutionary and democratic emigrants.

Atmosphere of rapid cultural life, artistic and scientific circles in Paris added much to the development of Orda's multiple skills and abilities, his creative nature. By that time, Orda had already revealed professional interest and sense toward music and painting. Frederic Chopin mastered his musical art, in which Orda showed great achievements. Orda's polonaises, waltzes, serenades and mazurkas were highly admired by F. Chopin, F. List and S. Maniushka who were conquered with melody, drama, virtuoso style, rich contents and lyrics of his musical works. Orda composed music for romances and songs written by S. Vitnitsky and A. Plougue. He published «Album Of Polish Composers» (1838), «Musical Grammar» (Warsaw 1837). In the mid-1840s he was a director of Italian Opera House in Paris.

Orda also means an outstanding name in literature. He wrote articles about famous people and interesting places. In 1856, Orda published a Polish-French handbook. Earlier — in 1839 — he was accepted a member of Polish historical and literary society.

In Paris Orda attended studio of the famous artist Pierre Gerar who's genre was architectural landscapes. There Orda got his artistic education and there his artistic genre was basically shaped. Archeology and architecture became the sphere of his artistic interest. Drawing turned for him not only a piece of art but a historical document in which there are depicted valuable architectural monuments. That is why Orda furnishes his works with historical annotation. He tends to record every possible detail — like names of manor and

palace proprietors, religion of the churches, year of foundation, construction, etc. His works vividly show his desire to share his own foundings and impressions from travels with the audience.

In 1856, after tzar's government announced amnesty to political immigrants, 49-year-old Napoleon Orda came back to native Varatsevichy. Later on, from 1862-1863 he lived in Grodna, then he moved to Pinsk, where he settled down for a short while. Orda worked as private teacher of music for a family of General Adam Rzhavousky at Valyn for living.

In his spare time Orda traveled a lot over Belarus, Lithuania, Poland and Ukraine, where he made many sketches of architectural and historical monuments, townships and villages, along with famous places where outstanding people lived and worked. Those travels resulted in an impressively great collection of over 1150 pieces; about two hundred of those drawings are views of Belarus.

For his works, Orda chose the special manner of drawing, which was pencil sketching, lightly tinted with water colours, gouache or sepia. This kind of technique perfectly fit dynamic style of Orda's travels. It allowed him to make quick but detailed sketches of architecture and landscapes. Orda even set constant paper format for his works — he always used a 30-centimeter long sheet glued to a plate.

Most of Orda's attention was focused on the pictures of several manors and memorable places, somehow related to such famous names in culture as A. Mickevich (manors in Zavosse and Tuganovichi), M. Aginsky (palace in Retavas, Lithuania), S. Maniushka (manor in Ubel village), I. Hodzka (manor in Dzeviatnia village, Lithuania), U. Syrakomlia (manor in Smolhava), A. Plougue (manor in Zhukau Barok village), etc.

Twice during 1860, Orda made sketches of his native places and his dear manor Varatsevichy. In his drawings there is a single-store bar wooden house for two families. This house has traditional four-column portico threshold in the center of front facade with a small garret over it. In front of the house there is a front yard with the picturesque park behind. Such manor of a small Polish gentleman was the most typical and the most spread in Belarus, which is shown in other Orda's drawings. Those cozy manors with modest apartments, parks and utility buildings seem to be closer than anything else to the artist's heart.

The series of drawings by Napoleon Orda generates the image of Belarusian village from the 19th century. Each of them shows national wooden architecture in a good detail, and fully retains national atmosphere. We see picturesque drops of Belarusian settlements amongst and alongside rivers and lakes, straw-roof huts, wooden churches and bell-houses, water and wind mills, wells and other rural views.

Urban architecture, however, takes most of his drawings (over 30 pieces). He created broad panoramas of multi-styled constructions for several towns, dated 19th century, among them — Grodna, Vitsebsk, Minsk, Magilev, Polatsk, Pinsk, Navagrudak, Neswizh, Turav, Svislach... Orda would nearly never generalize urban buildings. Each house was featured individually, street panoramas presented from acute aspect, architectural dominants distinguished.

Orda's special admiration is set on ancient temples, most of which lay in ruins at those times already. In two of his drawings there is depicted a monument to defensive architecture — White Tower in Kamenets — in its primary condition, without mark of further restoration and plaster. With romantic nostalgia, artist drew Old and New castles in Grodna, and temple residence of Ilyinichy in Mir. In Orda's drawings we see ancient Belarusian temples in Krev, Geranyony, Lida, Navagrudak, Karalin (Pinsk region).

With the esthetical feeling and some romanticism Orda sketched numerous magnate palaces and gentleman manors with their outer varnish, splendor and stately view. Artist's interest toward old-fashioned manors is explainable — there were times when these manors were cultural centers with numerous collections of pieces of art, huge libraries, archive stores, archeological and arms collections. In his drawings Orda reflected the main significance of this branch of construction, which is harmonious relation of monumental building with natural and park environment. Without that Orda's drawings would miss their artistic sense. Orda's landscape is rich. It is filled with rivers, lakes, ponds, access roads and alleys. Such perfect presentation of nice landscapes is inherent with the views of manors and palaces in Buinavichy, Vialiki Mazheyk,

Dziatlava, Albertzin, Dziarechin, Vysokaye, Garadzeya, Dashkouka, Grodna and Beshankovichy.

Amongst Orda's drawings there is a wide series for cult architecture in Belarus from far past to the middle of 19th century. They are magnificent Catholic monuments in Neswizh, Grodna, Vitsebsk aside with simple wooden villain churches and chapels in Bezdzezh, Berazhnitsa, Brashevichy, Moladava, Anopal.

Artistic heritage of Napoleon Orda is a wonderful illustration for the development of architectural styles in Belarus. We admire the Middle Age gothic in the pictures of Farny Roman Catholic church in Grodna, Church of Boris and Gleb in Navagrudak, Roman Catholic churches in Gnyozna, Ishkaldz, Koydanava. While the architecture of ancient Russian period is represented by the pictures of Church of Boris and Gleb in Grodna, Sophia Cathedral and Spas-Eufrosynia Church in Polatsk.

Fragmentarily researched architecture of Renaissance can be seen in a temple-house in Gaitsiunishki and Mir castle.

Palaces and manors in Ruzhany, Dziatlava and Stanislavova reflect baroque and rococo styles. Their architecture is distinguished by sculpture plasticity with dog-leg shaped roofs, high cut elements with balconies and belfry frontons, facade wall piers, high windows with ductile shutters. Orda the traveler found chef-d'oeuvres of baroque cult architecture in Smilavichy (Missioners Monastery), Polatsk (Jesuits Monastery), Neswizh (Benedictine Convent), Slutsk (Bazillion Monastery of Trinity in Traichany), Dziarechyn (Dominique Catholic Church), etc ...

Orda made the most vivid illustrations to the styles of classicism and umpire in Belarusian architecture. These are palaces in Albertzin (near Slonim) with umpire lion sculptures at the portico threshold, and in Dziarechyn, Grushavets, Palanechka, Snou, Zhylichy.

At the same time, the artist considers contemporary buildings of eclectics or historicism are of the same interest. Palaces and manors of those times were distinguished by individuality and uniqueness, and retrospective use of the architectural styles of the past. The so-called "castle style" which supposed the implementation of some castle architecture elements and shapes for decoration — like rack-and-pinion gear, slot windows, cut and cylinder towers — is seen in the manors in Masaliany, Dzeviatkavichy, Astroshitski Garadok. Through his drawings the artist reminds us that at those times it became more and more spread to set a winter garden at master's manor. The glass room can be either annexed to the house, like in the manor in Doukory and Paniamun, or is constructed separately from the house, like in Tuganavichy. In the picture with manor in Pryluki we observe turning back to gothic.

Orda classified his drawings, and put them into separate folders, where there were kept his works created during the period from 1840-80. Materials about Belarus are stored in the folder on Grodna gubernia (1860-77, 144 plates), Minsk gubernia (1864-76, 64 plates), Vitsebsk gubernia (1875-1876, 35 plates), Vilnya gubernia (1875-77, 50 plates), Magilev gubernia (1877, 15 plates). Besides that, the artist also separated folders with drawings of landscapes in such far-away lands, as Volyn, Kiev, Padolsk, Kovna gubernias, Poznan Principality, Western Prussia and Galicia, France, Germany, Italy and Portugal. The most valuable Orda's drawings are copied with gravures in many periodical historical editions (for example, in Polish magazine "Tygodnik illustravany" — Illustrated Weekly — under the headline "From Napoleon Orda's Folder").

In 1873, Napoleon Orda began one more monumental work, which was the publication of "Album Widokow Historycznych Polski" — Album of Historical Sights in Poland. He invested his own money to this project. However, there were published only 8 series (nearly 120 pieces represent landscapes of Belarusian gubernias) of 260 lithographic printings, cut in stone by Alaiz Misurovich in the lithographic studio of Maximilian Faiance in Warsaw. Lack of money in Orda's family, who became rather poor, along with censors who revised materials for publishing and put their admission stamps, were the reasons for the incomplete publication of artist's works.

Most of Orda's drawings (977 plates) are now kept in Popular Museum in Krakow, where they got by donation in 1886 from the relatives after artist's death (1883). Part of drawings are in Popular Museum in Warsaw, album of water-

colours is kept in the library named after V. Stefanik in Lvov (Ukraine). Considerable collection of lithograph printings from the original Orda's drawings are preserved in the National library of Belarus. Besides drawings which were published in many editions, this album also contains nearly all main lithographs from drawings of Belarus, extracted from the funds of the National library. The employees from the rare book manuscripts and ancient book department — T.U. Roshchyna and V.U. Lissiankova — helped much with the selection of drawings. We would like to thank them for their work and kind cooperation in the preparation of this book.

Orda's drawings are not just important works of art, but also a valuable source of information on the history of Belarusian architecture. From his drawings, we now imagine how architectural monuments and places, which do not exist any more or have drastically changed, looked like in the past. There are no longer existing wonderful old manors nor palaces in Moladava, Asveia, Benitsy, Varoncha, Zakozel, Dziarechyn, Lagoisk, Dubai. Monasteries and Catholic churches of Cartesian (Biaroza), Bazillion (Berazvecha), Carmelites (Bialynichy), Dominican (Valyntsy) — baroque chef-d'oeuvres — are completely ruined. In Orda's drawings Belarus recovers, like a phoenix bird recovers from ashes, grows with light contours of sacred architecture.

Life and creative work of Napoleon Orda is a bright page in history of national culture. Decency and modesty, multiple worthy interests, extraordinary talent and constant interest and sympathy to the destiny of native land were the peculiarities of Orda's personality, which featured him as one of the most outstanding figures — educator and philosopher — in Belarusian culture in the 19th century. Only at the fall of the 20th century we begin to realize the significance of our compatriot Napoleon Orda.

In 1997, in Ivanava town there was open a monument to Napoleon Orda, created by sculptor I. Golubev.

So, let the publication of this album become part of the esteem and gratitude to Napoleon Orda for his tireless great work for the Belarusian culture.

*A.N. Kulagin*



1

**Сядзіба**
в. Абрэнбшчызна, Гродзенскі раён

**Manor**
Abrenbchyzna village, Grodna district

Выгляд аднапавярховага прамавугольнага ў плане дома з боку парка, у які выходзіць слуповая тэраса параднай залы. Верагодна, дом пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст., аб чым сведчыць архітэктурны стыль з выкарыстаннем аканіц, запазычаных з народнага дойлідства, паўкруглага франтона — з архітэктуры барока. З боку прыбудаваны ашклёны зімовы сад. Малюнак 1868 г.



**2**

**Сядзіба**
пас. Альбярцін, цяпер вул. Калгасная
г. Слоніма, Гродзенская вобласць

**Manor**
Albiartsin hamlet, now Kalgasnay Street,
Slonim, Grodna region

Рэзідэнцыя графа Уладзіслава Пуслоўскага, які заснаваў фабрыкі сукна і габеленаў, запалак, цвікоў, млын на р. Іса. Палац пабудаваны ў былым прыгарадзе Слоніма пасля Айчыннай вайны 1812 г. у стылі ампіру, акружаны пейзажным паркам. За ім бачна аднапавярховая афіцына. Сядзібны комплекс цалкам захаваўся. Малюнак 1865 г.



## 3

**Фабрыка сукна**
пас. Альбярцін, цяпер вул. Калгасная
г. Слоніма, Гродзенская вобласць

**Textile workshop**
Albiartsin hamlet, now Kalgasnay Street,
Slonim, Grodna region

Звычайны прамысловы будынак без адзначанай стылявой характарыстыкі, суседняя плаціна з млыном давала энергію для фабрыкі, якая знаходзілася непасрэдна перад палацам. Не захавалася. Надпіс на алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку: «24 мая 1877 г. Альбярцін; Фр. Пуслоўскі, ж. Леантына Влодэк. Маёмасць Фр. Пуслоўскага, фабрыка сукна».



## 4

**Палац Незабытоўскіх**
в. Аляшавічы, Гродзенскі павет

**Palace of Nezabytousky**
Alyashavichy village, Grodna region

Выгляд палаца з боку пад'езда, які на той час належаў Канстанціну Незабытоўскаму і яго жонцы Камінскай. Пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. у стылі позняга класіцызму. Двухпавярховы палац з рызалітам і тэрасай на калонах; бакавыя крылы аднапавярховыя на высокіх падмурках. Палац не захаваўся. Малюнак 1861–1877 гг.

2 Зак. 2753



# 5

**Місіянерскі касцёл Прасвятой Тройцы і палац Шадурскіх**
в. Асвея, Верхнядзвінскі раён, Віцебская вобласць

**Missioners' Roman Catholic Church of the Holy Trinity and Palace of Shadursky**
Asveiya village, Verhniadzvinsk district, Vitsebsk region

У 2-й палове XVIII ст. Асвея належала мінскаму ваяводзе графу Аўгусту Гілзену, пасля якога ў 1781 г. маёнтак перайшоў да Шадурскіх. Праз год яны пабудавалі на беразе возера Асвейскага палац у стылі класіцызму і высадзілі пейзажны парк. Палац зруйнаваны ў час вайны ў 1914 г., засталіся руіны і парк. Літаграфія з малюнка 1875—1876 гг.



6

**Палац Тышкевічаў**
в. Астрашыцкі Гарадок, Мінскі раён

**Palace of Tyshkevich**
Astrashytsky Garadok village, Minsk district

Выгляд з боку пад'езда мураванага двухпавярховага палаца графа М. Тышкевіча ў маёнтку Грудак, адбудаванага ў 1870-я гг. пасля пажару 1860 г. З правага боку руіны спаленай часткі палаца ў стылі рэтраготыкі з чатырох'яруснай чатырохграннай вежай, з правага — новазбудаванае крыло і флігель. Палац акружаны пейзажным паркам. Палац не захаваўся. Малюнак 1864—1867 гг.



7

**Сядзіба Швыкоўскіх**
в. Беніца, Маладзечанскі раён,
Мінская вобласць

**Manor of Shvykousky**
Benitsa village, Maladzechna district,
Minsk region

Выгляд з боку пад'езда. Драўляны аднапавярховы будынак з калонным порцікам пасярэдзіне і крыламі па баках; з правага боку фрагмент драўлянага флігеля з падценнем і вежачкай. Сядзібны дом пабудаваны ў 1779—1781 гг. паводле праекта італьянскага архітэктара К. Спампані. Сядзіба не захавалася. Надпіс на алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку: «Беніца 20 ліпеня. 1702 г. Маёмасць калісьці Міхала Коцела падскарбія літоўскага, зараз Канстанціна Швыкоўскага, абывацеля і доктара медыцыны». Малюнак 1875—1877 гг.



8

**Палац Храптовічаў**
г. Бешанковічы, Віцебская вобласць

**Palace of Hraptovich**
Beshankovichy, Vitsebsk region

Выгляд з боку пад'езда. Двухпавярховы палац з цэнтральным рызалітам; з левага боку аднапавярховы флігель, з правага — вежа прыходскага касцёла. Палац пабудаваны ў 1770-я гг. ў стылі ранняга класіцызму, належаў Агінскім, потым Храптовічам. Палац і парк існуюць. Надпіс на алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку: «Бешанковічы Ірэны гр. Храптовіч». Малюнак 1876 г.



9

**Палац Снядзецкіх**
в. Болтуп, Ашмянскі раён,
Гродзенская вобласць

**Palace of Sniadzietsky**
Boltup village, Ashmiany district,
Grodna region

Маёнтак у XIX ст. з'яўляўся маёмасцю Андрэя Снядзецкага, вядомага хіміка, урача, біёлага і філосафа, а потым яго нашчадкаў. Выгляд з боку парка. Будынак асіметрычнай кампазіцыі, з тэрасай на першым паверсе і балконам ў двухпавярховай частцы, аб'ёмы завершаны шчытамі з аркатурнай акаймоўкай. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Болтуп — 20 мая 1876 г. Андрэй Снядзецкі».



## 10

**Сядзіба Путкамераў**
в. Больценікі, Воранаўскі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor of Putkamery**
Boltseniki village, Voranava district,
Grodna region

Выгляд з боку пад'езда. Аднапавярховы дом з тэрасай на калонах і мансардай, з правага боку драўляны флігель. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Больценікі 27 чэрвеня. Тут Марыя памерла 1883 снежня 27. Маёмасць Станіслава Путкамера, сына Марыі Верашчакі, вядомай з паэзіі Міцкевіча пад імем Марылі». Малюнак 1875—1877 гг.



11

**Сядзіба**
в. Брэнна, Гродзенская вобласць

**Manor**
Brenna village, Grodna region

Выгляд з боку пад'езда. Ампірны дом пабудаваны ў 1-й палове XIX ст., аднапавярховы з калонным ганкам, і ступеньчатым атыкам і сходамі. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым малюнку надпіс: «Брэнна 13 сакавіка 1863 . Губ. Гродзенская».



12

**Палац Эйсмантаў у фальварку Бурдукаўшчызна**
в. Буйнавічы, Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць

**Palace of Eismants at Burdukaushchyzna estate**
Buinavichy village, Baranavichy district, Brest region

Выгляд з боку парка. Палац пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. ў стылі ампір. Двухпавярховы з аднапавярховымі бакавымі крыламі, з тэрасай і балконам на сярэднім трохгранным эркеры. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Бурдукаўшчызна генеральшы Рэгіны Эйсмант з дому Абуховічаў. Губ. Мінская». Малюнак 1876 г.



13

**Касцёл і кляштар кармелітаў**
г.п. Бялынічы,
Магілёўская вобласць

**Carmelites Catholic Church and Monastery**
Bialynichy, Magileu region

Кляштар заснаваны ў 1624 г. віленскім ваяводам канцлерам Вялікага княства Літоўскага Львом Іванавічам Сапегам. Мураваны касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі пабудаваны ў 1742—1763 гг. ў стылі барока. Пасля скасавання кляштара 19 ліпеня 1832 г. касцёл стаў парафіяльным, пасля пажару 1859 г. адноўлены. У 1876 г. па загаду магілёўскага губернатара перароблены на царкву. Літаграфія зроблена ў 1873 г. з малюнка Н. Орды. Касцёл не захаваўся.



14

**Кляштар картэзіянцаў**
г. Бяроза, Брэсцкая вобласць

**Cartesians Monastery**
Biaroza, Brest region

Агульны выгляд касцёла св. Юзафа і Казіміра і кляштара з брамай і агароджай з дзвюма гранёнымі вежамі. Твор архітэктуры барока, створаны італьянскім архітэктарам Джанбатыста Джыслені ў 1648—1689 гг. па фундацыі К.Л. Сапегі. Кляштар знаходзіцца ў зруйнаваным стане. Літаграфія з малюнка 1861—1877 гг., на якім надпіс: «Кляштар Картузаў у Бярозе».



## 15

**Сядзіба Дашкевічаў**
в. Вайцэхаўшчына, Бераставіцкі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor of Dashkevich**
Vaitsehaushchyna village, Berastavitsa district,
Grodna region

Аднапавярховы дом з двума калоннымі ганкамі, з правага боку аднапавярховае збудаванне. Пабудавана ў 1-й палове XIX ст. ў стылі позняга правінцыяльнага класіцызму. Малюнак 1868 г.



## 16

**Касцёл св. Ежы**
**і кляштар дамініканцаў**
в. Валынцы, Глыбоцкі раён,
Віцебская вобласць

**Roman Catholic Church of St. Yezhy**
**and Dominican Monastery**
Valyntsy village, Glybokaiye district,
Vitsebsk region

Агульны выгляд з боку р. Дрысы: брама, двухвежавы касцёл, на другім плане — кляштарныя корпусы. Заснаваны ўладальнікамі маёнтка Забельскімі—Шчытамі ў 1716 г. Пабудаваны з цэглы ў 1749—1766 гг. ў стылі ракако. Кляштар захаваўся часткова. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1875—1876 гг. надпіс: «25 чэрвеня. Валынцы. Касцёл дамініканцаў фундацыі Рыгора Шчыта, р. Дрыса. Губ. Віцебская».



## 17

**Сядзіба Ордаў**
в. Варацэвічы, Іванаўскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Manor of Orda**
Varatsevichy village, Ivanava district,
Brest region

Выгляд з боку пад'езда. Драўляны дом пабудаваны ў 2-й палове XVIII ст. пад уплывам стыляў барока і класіцызму. Аднапавярховы будынак пад ламаным дахам са слуповым двух'ярусным ганкам і мансардай пад трохвугольным франтонам, вакол пейзажны парк. На алоўкавым, падмаляваным гуашшу малюнку надпіс: «Варацэвічы 14 жніўня 1860. Месца нараджэння Напалеона Орды». Сядзіба не захавалася.



## 18

**Сядзіба Ордаў**
в. Варацэвічы, Іванаўскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Manor of Orda**
Varatsevichy village, Ivanava district,
Brest region

Выгляд з боку пад'езда. Драўляны дом пабудаваны ў 2-й палове XVIII ст. пад уплывам стыляў барока і класіцызму. Аднапавярховы будынак пад ламаным дахам са слуповым двух'ярусным ганкам і мансардай пад трохвугольным франтонам, на першым плане парадны партэр з брамай, на другім — за агароджай пейзажны парк. На літаграфіі надпіс: «Варацэвічы 14 жніўня 1860. Месца нараджэння Напалеона Орды». Сядзіба не захавалася.



19

**Сядзіба**
в. Варонча, Карэліцкі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor**
Varoncha village, Karelichy district,
Grodna region

Выгляд драўлянага дома з боку пад'езда ў атачэнні пейзажнага парку з парадным газонам. Пабудаваны апошнім навагрудскім ваяводам Юзафам Несілоўскім у 1786 г. ў пераходным стылі ад барока да класіцызму. Сядзіба адзначана ў паэме А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Панскі дом і бакавыя флігелі не захаваліся, парк існуе. Малюнак 1876 г., калі сядзіба належала Любаньскім.



## 20

**Васкрасенская царква, ратуша, бернардзінскі кляштар з касцёлам св. Антонія**
г. Віцебск

**Church of Resurrection, town hall, Bernardinian Monastery on Roman Catholic Church St. Antony**
Vitsebsk

З левага боку двухвежавая Васкрасенская царква; у глыбіні ратуша з гадзіннікавай вежай; з правага боку бернардзінскі касцёл, пры якім кляштарны будынак. Храмы разбураны ў 1930-я гг., захавалася ратуша. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Віцебск. Касцёл каталіцкі. Віцебск над Дзвіной. Месца старажытнае, вядомае з 1021 г.». Малюнак 1875—1876 гг.

3 Зак. 2753




## 21

**Дабравешчанская царква**
г. Віцебск

**Church of Annunciation**
Vitsebsk

Выгляд з боку р. Заходняя Дзвіна. З правага боку старажытная царква XII ст. — помнік полацкай школы дойлідства. Зруйнавана ў 1961 г., адноўлена ў 1990-я гг. З левага боку мост праз раку, у глыбіні царква з трыма купаламі. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку, зробленым у 1875—1876 гг., надпіс: «21 чэрвеня. Старое замчышча, Віцебск — царква стараверская старажытная — рака Дзвіна».



## 22

**Замкавая брама**
г. Высокае, Камянецкі раён,
Брэсцкая вобласць

**Castle gates**
Vysokaye town, Kamianets district,
Brest region

Выгляд з боку р. Пульва мураванай уязной брамы старажытнага замка Сапегаў. Захаваўся падмурак і абарончыя валы. З левага боку ў глыбіні касцёл Святой Тройцы. Літаграфія з малюнка 1876 г., на якім надпіс: « Замкавая брама. Высока Літоўск. Губ. Гродзенская. Старажытны прыстанак князёў Сапегаў. Князь Аляксандр Сапега канцлер вялікі літоўскі фундаваў 1785 г. кляштар баніфратаў са шпіталем для хворых. Зараз уласнасць графіні Марыі Патоцкай».



# 23

**Палац**
в. Вялікае Мажэйкава, Шчучынскі раён, Гродзенская вобласць

**Palace**
Vialikaiye Mazheikava village, Shchuchyn district, Grodna region

Выгляд з боку пад'язной дарогі праз ставы. У глыбіні ў парку бачны фрагмент палаца з калонным портыкам; з левага боку аднапавярховая афіцына. Абодва будынкі крыты ламанымі дахамі. Палац пабудаваны ў канцы XVIII ст. ў пераходным стылі ад барока да класіцызму пры ўладарах Хадкевічах, згарэў у 1914 г. Захаваўся рэгулярны парк, закладзены ў 1787 г., і лямус. Малюнак 1875—1877 гг.



## 24

**Касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі**
в. Гайна, Лагойскі раён, Мінская вобласць

**The Ascension of Holy Virgin Mary Roman Catholic Church**
Gaina village, Lagoisk district, Minsk region

Агульны выгляд двухвежавага касцёла з боку р. Гайна. Пабудаваны з цэглы ў 1781 г. ці 1796 г. ў стылі барока па фундацыі князёў Тышкевіча і Цыдзіка, на месцы папярэдняга старажытнага драўлянага храма. Зруйнаваны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Гайна 29 чэрвеня 1876. Адзін з сямі касцёлаў, закладзеных у той правінцыі пры Ягайле. Губ. Мінская».



25

**Замак Рымшаў**
в. Гайцюнішкі, Воранаўскі раён,
Гродзенская вобласць

**Castle of Rymshas**
Gaitsiunishki village, Voranava district,
Grodna region

Выгляд з боку пад'езда. Дом абарончага тыпу пабудаваны ў 1613 г. галандскім архітэктарам П. Нонхартам і інжынерам Ван Дадэнам. Замак захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «28 чэрвеня 1877. Маёмасць калісьці Сакенаў. Рамуальд Рымша; Гайцюнішкі, р. Жыжма. Пахаваны ў касцёле кальвінскім — Пётр Нонхарт, жонка Мрзыглудаўна Шэветава 1614 г. Маёмасць калісьці Сакенаў, зараз Рамуальда Рымшы».



# 26

**Замак Жабаў і руіны замка Сапегаў**
в. Гальшаны, Ашмянскі раён, Гродзенская вобласць

**Castle of Zhabas and Ruins of Sapega's Castle**
Galshany village, Ashmiany district, Grodna region

Замак двухпавярховы з гранёнымі вежамі, справа руіны замка Сапегаў 1-й паловы XVII ст. На малюнку надпіс: «18 мая 1876. Мястэчка носіць назву ад князёў Гальшанскіх, якая паходзіць ад Гольшы, сына Трабуса, князя літоўскага. Ганна Гальшанская, жонка Багдана Сапегі ваяводы мінскага, унесла Гальшаны ў дом Сапегаў — сын Багдана, Павел, пабудаваў замак. У палове XVIII стагоддзя маёмасць фаміліі Жабаў».



27

**Палац Брахоцкіх**
г.п. Гарадзея, Нясвіжскі раён,
Мінская вобласць

**Palace of Brahotsky**
Garadzeiya, Niasvizh district,
Minsk region

Выгляд з боку сажалкі. Палац пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. ў стылі позняга класіцызму: аднапавярховы на высокім падмурку будынак, сярэдняя частка двухпавярховая, якая завершана трохвугольным франтонам. Не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1864—1876 гг. надпіс: «15 ліпеня. Гарадзея Эміліі Брахоцкай. Губ. Мінская».



## 28

**Касцёл св. Ганны
і кляштар бенедыкцінцаў**
в. Гарадзішча, Пінскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Roman Catholic Church
of St. Anna and Benedict Convent**
Garadzishcha village, Pinsk district,
Brest region

Барочны касцёл 1774 г. і класічная званіца, акружаныя мураванай агароджай. Кляштар заснаваны ў 1659(62) г. па фундацыі полацкага ваяводы Яна Кароля Копеца, скасаваны ў 1864(5) г. і перададзены дзяржаўнаму казначэйству. Набажэнствы адноўлены ў 1907 г., у 1910 г. адрамантаваны намаганнямі пецярбургскага адваката Алшамоўскага. Кляштар захаваўся. Літаграфія 1873—1883 гг. з малюнка Н. Орды.



## 29

**Палац Васілеўскіх**
в. Гародня, Аршанскі раён, Віцебская вобласць

**Palace of Vasileusky**
Garodnia village, Orsha district, Vitsebsk region

Пабудаваны ў 1852 г. маршалкам Ігнаціем Васілеўскім у стылі класіцызму. Злева першапачатковы дом яго бацькі, маршалка Капыльскага павета Лявона Васілеўскага. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Гарадно — Ігнаці Васілеўскі, жонка Цюндзівецкая. Губ. Магілёўская. Уласнасць Ігнація Васілеўскага». Малюнак 1877 г. Палац не захаваўся.



## 30

| | |
|---|---|
| **Сядзіба Адынцаў** | **Manor of Adynets** |
| в. Гейстуны, Ашмянскі раён, | Geistuny village, Ashmiany district, |
| Гродзенская вобласць | Grodna region |

Першапачаткова сядзіба належала Радзівілам, потым Іаану Валяну і Ганне з Путкамераў, якія прадалі яе Марыяне Міткевіч са Свентаржэцкіх, жонцы лідскага канюшанага. Пасля сядзіба перайшла да Адынцаў. Тыповы шляхецкі двор сярэдзіны XVIII ст. з рысамі архітэктуры барока. Сядзіба згарэла ў 1895 г. Літаграфія з малюнка 1875—1877 гг.



# 31

**Руіны замка Гаштольдаў, касцёл св. Мікалая і палац Мілеўскіх**
в. Геранёны, Іўеўскі раён, Гродзенская вобласць

**Gashtold's Castle Ruins, St. Michael Roman Catholic Church and the Palace of Mileusky**
Geranieny village, Iuye district, Grodna region

Літаграфія з малюнка 1875—1877 гг., на якім надпіс: «Геранёны 16 мая. Замак і маёнтак належаць да Артылерыі Нарадовай пад кам(андаваннем) Ю.Х. Сапегі. Касцёл 1529. Замак разбураны ў 1720 г. Геранёны паводле даўніх хронік былі набыты пры В.Х. Эрдзівіле мужным камандуючым Грумпія, сын якога Гаштольд з'яўляецца нашчадкам знакамітай фаміліі Гаштольдаў, згаслай ў 1542 г. Тут жыла Барбара Радзівіл, жонка Станіслава Гаштольда з 1538 г. Зараз маёмасць фаміліі Мілеўскіх».



## 32

**Палац** **Palace**
в. Геранімава, Гродзенская вобласць Geranimava village, Grodna region

Выгляд з боку параднага ўваходу. Пабудаваны ў 1-й палове XIX ст., калі маёнтак каля 1820 г. набыў Геранім Казімір Дзяконьскі — удзельнік напалеонаўскага паходу. Уяўляў сабой арыгінальны твор позняга, нават авангарднага класіцызму, цэнтральную частку палаца вылучаў незвычайна далёка вынесены чатырохкалонны порцік з цыліндрычным скляпеннем. Палац спалены у 1943 г.
Літаграфія з малюнка 1868 г.



33

**Касцёл св. Міхала**
в. Гнезна, Ваўкавыскі раён,
Гродзенская вобласць

**Roman Catholic Church of St. Mihal**
Gnezna village, Vaukavysk district,
Grodna region

Выгляд з боку пад'язной дарогі. Мураваны храм пабудаваны ў стылі готыкі з элементамі рэнесансу ў 1524 (1527) г. Аднанефавы аб'ём з трохграннай алтарнай апсідай. Да фасада далучана чатырохгранная двух'ярусная вежа-званіца. Касцёл захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Гнезна 6 чэрвеня 1877. Губ. Гродзенская. Касцёл вельмі старажытны, у вонкавай сцяне выціснута 1121, невядома ці то год узнікнення».



## *34*

**Палац Паскевічаў** **Palace of Paskevich**
г. Гомель Gomel

Выгляд з боку парка. Палац пабудаваны ў 1777—1805 гг. ў стылі класіцызму генерал-фельдмаршалам П.А. Румянцавым, а потым князем І.Ф. Паскевічам (архітэктары Я.М. Аляксееў, К.І. Бланк, Дж. Кларк, А. Ідзкоўскі). Палац захаваўся. Літаграфія з акварэльнага малюнка 1877 г., на якім надпіс: «Тут перад палацам стаіць помнік князю Юзэфу Панятоўскаму, твор Тарвальдсана, выкананы коштам вайсковых унёскаў па пяць грошаў, прадназначоны для Варшавы».



## 35

**Новы Замак** **Novy Castle**
г. Гродна Grodna

Выгляд з боку ўезда праз браму. Пабудаваны ў 1734—1751 гг. паводле праекта нямецкага архітэктара К.Ф. Пёпельмана з удзелам І.Х. Яўха, І.Ф. Кнобеля, Дж. Сака ў барочна-ракайльным стылі як рэзідэнцыя польскага караля Ст.А. Панятоўскага. У 1944 г. замак значна разбураны. Адноўлены ў 1952 г. Літаграфія з акварэлі 1861—1869 гг.



## 36

**Барыса-Глебская (Каложская) царква** **The Church of St. Boris and St. Gleb**

г. Гродна Grodna

Барыса-Глебская (Каложская) царква — помнік старажытнарускага дойлідства 2-й паловы XII ст. З левага боку драўляная чатырохгранная званіца; з правага боку ў глыбіні збудаванні Старога замка; далей вежа касцёла бернардзінцаў. Царква часткова разбурана ў 1853 г. ў выніку апоўзня высокага берага р. Нёман, абвалілася ў 1889 г. Знаходзіцца ў стане рэстаўрацыі, дзейнічае. Літаграфія з малюнка, на якім надпіс: «4 красавік 1869. Каложа пад Гродна».

4 Зак. 2753



37

**Дом Макавельскай** **House of Makavelskaya**
г. Гродна Grodna

Аднапавярховы, пад паўвальмавым дахам дом з чатырохкалонным атыкавым ганкам з боку падворра; з правага боку ўязная брама; з левага драўляны флігель. Дом пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. з элементамі стылю ампір па тыпу правінцыяльнай панскай сядзібы. Не захаваўся.
На алоўкавым, падмаляваным сепіяй малюнку надпіс: «10 ліпеня 1867. Гродна. Дом Макавельскай. Вуліца Скалманоўская».



38

**Дамініканская вуліца з гасцініцай Ромера**
г. Гродна

**Dominican Street with Romer's Hotel**
Grodna

Выгляд вулічнай жылой забудовы з выявай гасцініцы эклектычнай архітэктуры сярэдзіны XIX ст.: працяглы ўздоўж вуліцы (суч. Савецкая) трохпавярховы будынак з трыма рызалітамі, завершанымі атыкамі з вазамі і балконамі на другім паверсе. Гасцініца не захавалася. На алоўкавым малюнку надпіс: «1 ліпеня 1867. Гродна. Вуліца Дамініканская — гатэль Ромера».



39

**Езуіцкі кляштар і касцёл св. Францыска**
г. Гродна

**Jesuits Monastery and Roman Catholic Church of St. Franzisk**
Grodna

Выгляд манументальнага двухвежавага трохнефавага крыжова-купальнага храма з боку рыначнай плошчы, злева ад якога будынак аптэкі, справа былы палац Баторыя. Мураваны храм пабудаваны ў 1678 г. ў стылі барока па фундацыі Самуэля і Канстанцыі Лозаў. Літаграфія з малюнка 1861—1869 гг. Захаваўся амаль ў незмененым выглядзе з багацейшым высокамастацкім аздабленнем інтэр'ера.



## 40

**Сядзіба Рэйтанаў**
в. Грушаўка, Ляхавіцкі раён, Брэсцкая вобласць

**Manor of Reitan's**
Grushauka village, Liahavichy district, Brest region

Выгляд з боку пад'езда. Дом пабудаваны ў канцы XVIII ст. ў стылі класіцызму — аднапавярховы з калонным портыкам, з левага боку аднапавярховы флігель. Не захаваўся, на яго месцы пабудаваны драўляны дом у стылі мадэрн. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1864—1876 гг. надпіс: «Грушаўка. 1 верасня. Маёмасць Юзафа Рэйтана; тут нарадзіўся Тадэвуш Рэйтан 20 жніўня 1742 г. Губ. Мінская».



# 41

**Палац Жукоўскіх**
в. Дашкаўка, Магілёўскі раён

**Palace of Zhukousky**
Dashkauka village, Magileu district

Пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. ў стылі позняга класіцызму. Трохпавярховы палац з лоджыямі з паркавага фасада; на першым плане двухпавярховы драўляны будынак і млын. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «15 жніўня 1877. Дашкаўка; Эдвард Жукоўскі Вітальд, сын; жонка Эмілія Цеханавецкая. Губ. Магілёўская. Маёмасць Эдварда Жукоўскага».



## 42

**Палац Шлізняў**
в. Дзевяткавічы, Слонімскі раён,
Гродзенская вобласць

**Palace of Shlizny**
Dzeviatkavichy village, Slonim district,
Grodna region

Выгляд з паркавага фасада. Палац трохпавярховы асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з прамавугольнай ў плане высотнай і чатырохграннай вуглавой вежамі, якія завершаны крэмальерамі. З левага боку далучана аранжарэя. Пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. ў стылі рэтраготыкі. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1861—1877 гг. надпіс: «Дзевяткавічы Альфрэда Шлізня. Губ. Гродзенская».



43

**Кальвінскі збор**
г. Дзяржынск (былое Койданава),
Мінская вобласць

**Calvinist Monastery**
Dziarzhynsk (former Koidanava),
Minsk region

Агульны выгляд з боку р. Няцеча. Мураваны храм з пяціграннай алтарнай апсідай і чатырох'яруснай вежай-званіцай пабудаваны ў 1613 г. ў стылі готыкі Крыштофам Мікалаем Радзівілам. Тэрыторыя збору была ўмацавана муравакай сцяной і дзевяццю круглымі двух'яруснымі абарончымі вежамі. Збор не захаваўся. На малюнку надпіс: «13 ліпеня 1876 г. Касцёл кальвінскі ў Койданаве закладзены пры князю Радзівіле Рудым. Губ. Мінская».



## 44

**Касцёл і кляштар дамініканцаў**
в. Дзярэчын, Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць

**Dominican Roman Catholic Church and Monastery**
Dziarechyn village, Zelva district, Grodna region

Пабудаваны касцёл у 1690 г. ў стылі барока (згарэў у 1866 г.). Перад касцёлам знаходзілася высокая вежа-званіца; у глыбіні фрагмент кляштарнага корпуса; абкружаны пейзажным паркам і агароджай з брамай. Не захаваўся. На алоўкавым малюнку, падмаляваным акварэллю, надпіс: «21 мая 1877 г. Дзярэчын, губ. Гродзенская. Касцёл і труны князёў Сапегаў варварскі знішчаны і разабраны на цэглу — унутры бачны цудоўныя фрэскі».



45

**Палац**
г.п. Дзятлава, Гродзенская вобласць

**Palace**
Dziatlava town, Grodna region

Пабудаваны ў 1751 г. ў барочна-ракайльным стылі князем Мікалаем Радзівілам на беразе р. Дзятлаўка, на месцы замка Астрожскіх пачатку XVI ст. З канца XVIII ст. належаў Солтанам, у якіх канфіскаваны царскімі ўладамі ў казну за ўдзел у паўстанні 1831 г. Захаваўся ў змененым выглядзе. Акварэльны малюнак анатаваны: «Здзіцел. Палац князя Радзівіла, у наступным уласнасць палкоўніка Адама Солтана. Губ. Гродзенская». Гравюра з малюнка 1861—1877 гг.



## 46

**Сядзіба** в. Дубае, Пінскі раён, Брэсцкая вобласць

**Manor** Dubaiye village, Pinsk district, Brest region

Выгляд з боку пад'езда. Аднапавярховы палац з бакавымі вежамі-алькежамі і двухпавярховай цэнтральнай часткай, аформленай чатырохкалонным порцікам з балконам; з правага боку капліца, з левага флігель. Сядзібна-паркавы ансамбль створаны ў 2-й палове XVIII ст. ў стылі барока. Належаў Кужанецкім, да якіх перайшоў ад пінскіх езуітаў. Захаваўся рэгулярны парк з капліцай. Літаграфія з малюнка Н. Орды.



47

**Палац Ашторпаў**
в. Дукора, Пухавіцкі раён,
Мінская вобласць

**Palace of Ashtorpay's**
Dukora village, Pukhavichy district,
Minsk region

Выгляд галоўнага фасада двухпавярховага палаца з чатырохкалонным портыкам; да бакавога фасада далучана аранжарэя. Пабудаваны на мяжы XVIII—XIX ст. ў стылі класіцызму ўладальнікам Францішкам Ашторпам (ці яго сынам Лявонам). Не захаваўся. На акварэльным малюнку надпіс: «Дукора 4 ліпеня 1876. Дукора над ракой Свіслач — калісьці маёмасць князёў Агінскіх — потым фаміліі Ашторпаў».



## 48

| | |
|---|---|
| **Палац Умястоўскіх** | **Palace of Umiastousky** |
| в. Жамыслаўль, Іўеўскі раён, | Zhamyslaul village, Iuye district, |
| Гродзенская вобласць | Grodna region |

Выгляд з боку пад'езда. Пабудаваны ў 1863—1877 гг. па аналогіі з каралеўскай рэзідэнцыяй XVIII ст. «Лазенкі» ў Варшаве, верагодна, паводле праекта Л. Марконі; з левага боку класічная двухпавярховая афіцына 1828 г. з высокім калонным порцікам. Акружаны пейзажным паркам, які высаджаны французскім садоўнікам Джэймсам. Алоўкавы малюнак, падмаляваны акварэллю, выкананы ў 1875—1877 гг. Палац захаваўся.



49

**Палац Умястоўскіх**
в. Жамыслаўль, Іўеўскі раён,
Гродзенская вобласць

**Palace of Umiastousky**
Zhamyslaul village, Iuye district,
Grodna region

Выгляд з боку р. Гаўя. Пабудаваны ў 1863—1877 гг. па аналогіі з каралеўскай рэзідэнцыяй XVIII ст. «Лазенкі» ў Варшаве, верагодна, паводле праекта Л. Марконі; з правага боку класічная двухпавярхова афіцына 1828 г. з высокім калонным порцікам. Акружаны пейзажным паркам, які высаджаны французскім садоўнікам Джэймсам. Палац захаваўся. Літаграфія з малюнка 1875—1877 гг.



50

| | |
|---|---|
| **Краявід вёскі** | **Villain scenery** |
| в. Жукаў Барок, Стаўбцоўскі раён, Мінская вобласць | Zhukau Barok village, Staubtsy district, Minsk region |

Агульны выгляд з боку р. Нёман, з драўлянай царквой Апекі Прасвятой Дзевы Марыі, панскай сядзібай з калонным ганкам. На першым плане, верагодна, старажытнае паселішча. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Жукаў Барок 15 жніўня 1876. Тут правёў дзіцячыя гады Антоній Пількевіч (Адам Плуг—вядомы апавядальнік, які нарадзіўся ў Замосці)».



## 51

**Палац Булгакаў**
в. Жылічы, Кіраўскі раён,
Магілёўская вобласць

**Palace of Bulgaki**
Zhylichy village, Kirau district,
Magileu region

Выгляд з боку пад'езда; да галоўнага двухпавярховага корпуса з шасцікалонным порцікам далучаны аднапавярховы флігель; над комплексам узвышаецца дваравая купальная вежа. Пабудаваны ў 1825—1830-я гг. паводле праекта архітэктара К. Падчашынскага ў стылі класіцызму суддзёй і ротмістрам рэчыцкім Ігнаціем Булгакам. Палац захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1864—1876 гг. надпіс: «Маёмасць Эдгара Булгака; Дабосня, губ. Мінская».



52

**Сядзіба Міцкевічаў**
хут. Завоссе, Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць

**Manor of Mitskevichy**
Zavosse stead, Baranavichy district,
Brest region

Сядзіба з драўляным домам пад саламянай страхой і слуповым ганкам, свірнам з падценнем і іншымі гаспадарчымі пабудовамі. Вырашана ў традыцыях народнага дойлідства. На другім плане парк. Сядзіба адноўлена. На літаграфіі анатацыя: «Малюнак з натуры Напалеона Орды. Калісьці ўласнасць дзядзькі Адама Міцкевіча Адама, тут нарадзіўся года 1798 снежня 24 у час, калі яго бацька Мікалай кіраваў гаспадаркай свайго брата».

5 Зак. 2753



53

**Сядзіба Ажэшкаў**
в. Закозель, Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Manor of Azheshkay**
Zakozel village, Dragichyn district,
Brest region

Выгляд з боку пад'езда. Драўляны аднапавярховы дом з бакавымі крыламі, з калонным порцікам па цэнтры, які завершаны ступеньчатым атыкам; на другім плане пейзажны парк. Пабудавана ў 1-й палове XIX ст. ў стылі ампір. Захавалася часткова. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю і гуашшу малюнку надпіс: «24 лютага 1863. Закозель. Губ. Гродзенская. Маёмасць Ажэшкаў».



## 54

**Парафіяльны касцёл св. Крыжа**
г. Іванава, Брэсцкая вобласць

**Roman Catholic Church of St. Cross**
Ivanava, Brest region

Драўляны двухвежавы храм са шчытом па цэнтры і сігнатуркай у завяршэнні даху; з правага боку драўляная званіца. На першым плане чатырохгранная капліца св. Андрэя Баболі. Пабудаваны ў XVIII ст. ў традыцыях народнага дойлідства. Не захаваўся. Літаграфія з малюнка, на якім надпіс: «Янаў 26 мая 1861. Помнік св. Баболі. Губ. Гродзенская».



# 55

**Сядзіба Астрамецкіх**
в. Івашкавічы, Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor of Astrametsky**
Ivashkavichy village, Zelva district,
Grodna region

Аднапавярховы дом з двухпавярховай цэнтральнай часткай; з левага боку аднапавярховая афіцына. Абодва будынкі накрыты ламанымі дахамі. Пабудавана на мяжы XVIII—XIX ст. ў пераходным стылі ад барока да класіцызму. Не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю і гуашшу малюнку надпіс: «4 красавіка 1863. Івашкавічы. Губ. Гродзенская».



## 56

**Троіцкі касцёл**
в. Ішкалдзь, Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць

**Roman Catholic Church of Holy Trinity**
Ishkaldz village, Baranavichy district,
Brest region

Мураваны храм пад высокім двухсхільным дахам з цыбулепадобным купалком на гранёным барабане па цэнтры, на бакавых фасадах умацаваны вертыкальнымі, на вуглах ступеньчатымі контрфорсамі. Выцягнутая пяціґранная апсіда накрыта ніжэйшым шматсхільным дахам. Пабудаваны ў 1472 г. ў стылі готыкі Мікалаем Неміровічам. Касцёл захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «28 жніўня 1876 г. Ішкалдзь. Былы арыянскі касцёл».



## 57

**Белая вежа**
г. Камянец, Брэсцкая вобласць

**Belaya Vezha (White Tower)**
Kamianets, Brest region

Абарончая цыліндрычная вежа, завершаная крэмальерным парапетам. Пабудавана паміж 1276—1288 гг. ў стылі готыкі. Захавалася. Літаграфія з малюнка, на якім надпіс: «Камянец Літоўскі 20 красавіка 1876. Губ. Гродзенская. Мястэчка пры мяжы пушчы Белавежскай непадалёку ад Брэста Літоўскага. Вежа засталася ад абарончага замка, пабудаванага пры Ядзвігах каля 1276 г., пры Алешцы з расказа князя Уладзіміра Валынскага».



## 58

**Сядзіба Касцюшкаў**
г. Косава, Івацэвіцкі раён,
Брэсцкая вобласць

**Manor of Kastsiushka**
Kosava, Ivatsevichy district,
Brest region

На першым плане выгляд сядзібнага дома з рысамі стылю барока першай паловы XVIII ст. ў фальварку Мерачоўшчына — месца нараджэння кіраўніка паўстання 1794 г. Тадэвуша Касцюшкі (1746—1817). У глыбіні палац графа В. Пуслоўскага ў стылі рэтраготыкі, пабудаваны ў 1838 г. архітэктарамі Ф. Яшчолдам і У. Марконі. Сядзіба не захавалася, палац у руінах. Літаграфія з малюнка Н. Орды.



# 59

**Касцёл св. Міхаіла і Марыі Магдаліны** в. Краснікі, Бераставіцкі раён, Гродзенская вобласць

**Roman Catholic Church of St. Michael and Maria Magdalene**
Krasniki village, Berastavitsa district, Grodna region

Аднанефавы храм з чатырохкалонным портыкам на галоўным фасадзе. Пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. ў стылі ампір. З левага боку трохслуповая званіца. Касцёл не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю і гуашшу малюнку надпіс: «24 чэрвеня 1868. Капліца ў Красніках. Губ. Гродзенская».



60

**Руіны замка**
в. Крэва, Смаргонскі раён,
Гродзенская вобласць

**Ruins of the Castle**
Kreva village, Smargon district,
Grodna region

Пабудаваны пасля 1338 г. па тыпу гатычных крэпасцяў-кастэляў, верагодна, пры садзейнічанні сына Гедыміна — Альгерда, які жыў тут да 1345 г. Літаграфія з малюнка 1875—1877 гг., на якім надпіс: «20 мая. Крэва. Губ. Віленская. Руіны вядомага замка. Тут у сваім дзяцінстве вялікі князь Альгерд узышоў на трон. Вежа гэтая адзначана ў гісторыі як месца згону вялікага князя літоўскага Кейстута ў 1382 г.».



## 61

**Палац Тышкевічаў** **Palace of Tyshkevich**
г. Лагойск, Мінская вобласць Lagoisk, Minsk region

Выгляд галоўнага фасада палаца з магутным шасцікалонным портыкам; на першым плане пад'язная дарога з мастком цераз ручай і парадны партэр. Пастаўлены на месцы старажытнага замка Чартарыйскіх, разбуранага шведамі ў 1706 г. Палац належаў вядомым археолагам і гісторыкам краю графам Канстанціну і Еўстахію Тышкевічам, пры якіх маёнтак стаў культурным асяродкам краю. Не захаваўся. Літаграфія з малюнка.



62

**Замак** — **Castle**

г. Ліда, Гродзенская вобласць — Lida, Grodna region

Агульны выгляд магутнай мураванай фартэцыі з верхняй баявой галерэяй і вуглавой вежай, на другім плане барочны Крыжаўзвіжанскі касцёл 1770 г. Пабудаваны замак у 1330-я гг. ў раманска-гатычным стылі па тыпу крыжацкіх прамавугольных у плане замкаў-кастэляў, уваходзіў ў лінію крапасных умацаванняў Навагрудак—Крэва—Мядзінінкай—Тракай. Адрэстаўрыраваны. Літаграфія з малюнка.



63

**Надмагілле Францішка Карпінскага**
в. Лыскава, Пружанскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Tomb of Franzishak Karpinsky**
Lyskava village, Pruzhany district,
Brest region

Фрагмент касцельных могілак з надмагіллем у форме нізкага доміка пад двухсхільным дашкам. Прысвечана польскаму паэту-сентыменталісту і драматургу Ф. Карпінскаму (4.10.1741–16.9.1825). Надмагілле захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «31 мая 1877. То мой дом убогі; Фр. Карпінскі памёр у 1825 г. 4 дня верасня, жыў 84 гады».



64

**г. Магілёў Magileu**

Агульны выгляд з боку ракі Днепр: з левага боку двухвежавы бернардзінскі касцёл, побач двухпавярховы будынак кляштара, у глыбіні царква; з правага боку на другім беразе ракі аднанефавы касцёл з вежай і дзве аднакупальныя царквы; на першым плане драўляны мост. На малюнку надпіс: «10 жніўня 1877. Касцёл бернардзінцаў, зараз архіў; Днепр. Прадмесце Магілёва».



65

**Сядзіба**
в. Магільна (цяпер в. Нёман),
Уздзенскі раён, Мінская вобласць

**Manor**
Magilna village (now Neman village),
Uzda district, Minsk region

Выгляд з боку пад'езда. Аднапавярховы дом з ганкам; з правага боку аднапавярховая пабудова. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным гуашшу малюнку надпіс: «21 ліпеня 1863. Магільна. Губ. Гродзенская. Сядзіба».



## 66

**Палац Цеханавецкіх**
в. Масальшчына, Магілёўскі раён

**Palace of Tsekhanavetsky**
Masalshchyna village, Magileu district

Агульны выгляд з боку ракі з млынам. Палац пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. ў стылі класіцызму. Аднапавярховы будынак з двума двухпавярховымі рызалітамі і калонным портыкам; на другім плане пейзажны парк. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Масальшчына 11 жніўня 1877. Уладзімір Цеханавецкі, жонка Людвіка Сенажацкая; Губ. Магілёўская. Маёмасць Уладзіміра Цеханавецкага».



## 67

**Палац Біспінгаў**
в. Масаляны, Бераставіцкі раён,
Гродзенская вобласць

**Palace of Bispingy**
Masaliany village, Berastavitsa district,
Grodna region

Выгляд з боку парку. Палац аднапавярховы, з бакавымі крыламі, афармленымі карынфскай каланадай. Цэнтральная частка вылучана паўкруглым калонным порцікам, які заканчваўся бельведэрам са скульптурай у завяршэнні. Пабудаваны паводле праекта архітэктара А. Градэцкага ў стылі позняга класіцызму з элементамі рэтраспектыўнай готыкі. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1861—1877 гг. надпіс: «Губ. Гродзенская. Масаляны—Палац».



## 68

**Касцёл і кляштар езуітаў**
г. Мінск

**Jesuits Roman Catholic Church and Monastery**
Minsk

Адлюстраваны ансамбль плошчы Высокага рынку (зараз плошча Свабоды). Цэнтральнае месца займае двухвежавы базілікальны касцёл. Пабудаваны ў 1700—1747 гг. ў стылі барока. Злева двухпавярховы будынак езуіцкай школы, справа двухпавярховы будынак калегіума з трох'ярусанай чатырохграннай гадзіннікавай вежай на цэнтры фасада. Захаваўся касцёл. Малюнак 1864—1876 гг.

6 Зак. 2753



69

**Замак**
г.п. Мір, Карэліцкі раён,
Гродзенская вобласць

**Castle**
Mir township, Karelichy district,
Grodna region

Выгляд з боку р. Міранкі. Замак пабудаваны ў канцы XV ст. ў гатычна-рэнесансным стылі родам Ільінічаў. З 1508 г. належаў Радзівілам, у 2-й палове XIX ст. — Вітгенштэйнам і Святаполк-Мірскім. Замак адноўлены. Літаграфія з малюнка 1864—1876 гг., на якім надпіс: «Мір. Губ. Мінская. Руіны цудоўнага замка, пабудаванага пры Ігнаціі Ільінічы ў канцы XV ст. Яго бяздзетны сын перадаў сваю маёмасць князю Крыштафу Мікалаю Радзівілу Сіротку ў 1568 г.».



**70**

**Палац Скірмунтаў**
в. Моладава, Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Palace of Skirmunt's**
Moladava village, Dragichyn district,
Brest region

Выгляд з боку пейзажнага парку. Аднапавярховы на высокім падмурку мураваны палац з гранёным рызалітам, галерэйкай па цэнтры і бакавымі чатырохкалоннымі порцікамі. Пабудаваны ў 1798 г. ў стылі класіцызму паводле праекта архітэктара Ван-Гроса. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: « Моладава 11 чэрвеня 1864. Губ. Гродзенская. Палац».



# 71

**Палац Скірмунтаў**
в. Моладава, Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Palace of Skirmunt's**
Moladava village, Dragichyn district,
Brest region

Выгляд з боку пад'езда да аднапавярховага з трыма порцікамі палаца. Пабудаваны ў 1798 г. ў стылі позняга класіцызму паводле праекта архітэктара Ван-Гроса. З левага боку афіцына. Акружаны пейзажным паркам. Палац не захаваўся. На літаграфіі канца XIX ст., зробленай з малюнка 1864 г., анатацыя: «Моладава, губ. Гродзенская. Палац пабудаваны пры Шымоне Скірмунце ў трох мілях ад Пінска».



72

**Палац Ваўкавіцкіх**
в. Муравана, Берастравіцкі раён,
Гродзенская вобласць

**Palace of Vaukavitsky**
Muravana village, Berastavitsa district,
Grodna region

Выгляд з боку паркавай сажалкі. Пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. ў стылі ампір. Двухпавярховы прамавугольны ў плане мураваны палац пад двухсхільным гонтавым дахам са слыхавымі вокнамі, на другім паверсе тэраса са сходамі з яе. Вакол пейзажны лесапарк з востравам пасярод сажалкі. Палац захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «4 красавіка 1868. Бераставіца, Муравана».



## 73

**Руіны замка і фарны касцёл**
г. Навагрудак, Гродзенская вобласць

**Ruins of the castle and Farny Roman Catholic Church**
Navagrudak, Grodna region

Выгляд размешчанага на Замкавай гары руін замка; з правага боку фарны касцёл, які пабудаваны ў 1-й палове XVIII ст. ў стылі барока. Літаграфія з малюнка, на якім надпіс: «29 ліпеня 1876. Навагрудак. Губ. Мінская. Горад і гістарычнае замчышча. Пры вядомай навале татар у 1240 г. Эрдзівіл в.к.л. адбудаваў гэты горад і да Літвы далучыў. Паводле некаторых гісторыкаў Міндоўг прыняў хрышчэнне і каранаваны на караля ў 1252 г. У 1422 г. тут адбыўся шлюб Ул. Ягайлы з Сафіяй, князёўнай кіеўскай». Касцёл і рэшткі замка захаваліся.



74

**Сядзіба Міцкевіча**
г. Навагрудак, Гродзенская вобласць

**Manor of Mickevich**
Navagrudak, Grodna region

Выгляд з боку пад'езда. Мураваны дом пабудаваны на месцы спаленага драўлянага пасля 1807 г. ў стылі класіцызму. Аднапавярховы будынак з ганкам-вестыбюлем; па баках флігелі, на другім плане пейзажны парк. Сядзіба захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1876 г. надпіс: «Дом бацькі Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Зараз дом — маёмасць пана Датброўскага. Дом стары мураваны, ганак і афіцына».



75

**Сядзіба**
в. Навашыно, Карэліцкі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor**
Navashyno village, Karelichy district,
Grodna region

Выгляд з боку парку тыповай дробнапамеснай сядзібы 2-й паловы XVIII ст. з рысамі стыля барока. Драўляны атынкаваны дом П-падобны ў плане, аднапавярховы, пад мансардавым дахам, з калонным падценнем; вакол пейзажны парк. На другім плане флігель. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю і сепіяй малюнку надпіс: «Навашыно. 19 верасня 1863. Губ. Гродзенская. Сядзіба».



## 76

| | |
|---:|:---|
| **Сядзіба** | **Manor** |
| в. Нізоўцы, Шклоўскі раён, | Nizoutsy village, Shklou district, |
| Магілёўская вобласць | Magileu region |

Выгляд з боку ракі. Дом, які належаў інжынеру-палкоўніку Міхаілу Савіцкаму, пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. ў стылі класіцызму. Двухпавярховы будынак пад вальмавым дахам, вакол пейзажны парк. З правага боку праваслаўная царква-пахавальня з чатырохгранным двух'ярусным барабанам, двума прытворамі і адасоблена пастаўленай званіцай. Сядзіба не захавалася. Алоўкавы малюнак, падмаляваны акварэллю, 1877 г.



77

**Замак Радзівілаў**
г. Нясвіж, Мінская вобласць

**Castle of Radzivil's**
Niasvizh, Minsk region

Выгляд з боку р. Уша. Замак заложаны князем М. К. Радзівілам Сіроткам у 1583 г. З левага боку бернардзінскі кляштар стылю барока (заснаваны ў 1598 г.); езуіцкі калегіум (пабудаваны ў 1586–1599 гг.) — шэдэўр архітэктуры ранняга барока італьянскага архітэктара Я.М. Бернардоні. Літаграфія з малюнка 1876 г., на якім надпіс: «Нясвіж 26 ліпеня. Пачатак ракі Уша; князь Антоній Радзівіл, Марыя Каштэлян — Эльжбета, Алена, сын Ежы. Губ. Мінская. Замак Радзівілаў». Замак захаваўся.



## 78

| **Палац** | **Palace** |
|---|---|
| в. Обрын, Навагрудскі раён, | Obryn village, Navagrudak district, |
| Гродзенская вобласць | Grodna region |

Выгляд з боку р. Обрынка. Палац пабудаваны ў 1837 г. ў стылі позняга класіцызму. З правага боку трохпавярховы флігель; з левага, верагодна, капліца. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Обрын. 17 ліпеня 1876. Збудаваны пры палкоўніку войска французскага Канстанціна Дуніна Раецкага 1837; Кашчыц. Губ. Мінская». Існуюць руіны палаца.



## 79

**Палац Радзівілаў**
в. Паланэчка, Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць

**Palace of Radzivil's**
Palanechka village, Baranavichy district,
Brest region

Выгляд з боку пад'езда. Палац пабудаваны ў стылі ампір у пачатку XIX ст. Цэнтральны двухпавярховы корпус з ашклёнымі галерэямі злучаны з бакавымі аднапавярховымі флігелямі. Цэнтральны рызаліт крапаваны пілястрамі-гермамі, у франтоне фамільны герб. На другім плане пейзажны парк. Палац захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1876 г. надпіс: «Паланэчка 18 ліпеня. Князь Мікалай Радзівіл. Губ. Мінская».



80

**Фабрыка сукна**
в. Парэчча, Пінскі раён, Брэсцкая вобласць

**Textile workshop**
Parecha village, Pinsk district, Brest region

Выгляд прамысловага комплексу ў былым фальварку Парэчча з боку р. Ясельда, які быў заснаваны А.С. Скірмунтам у 1836 г. Фабрычны комплекс уключае трохпавярховыя будынкі суконнай фабрыкі (1837), цукровага (1860) і крухмальнага заводаў з трубой (1866), бровар (1905), вакол парк рэгулярнай планіроўкі. Захаваўся будынак крухмальнага завода і парк. Літаграфія з малюнка 1864—1878 гг.



## 81

**Базыльянскі манастыр у прадмесці Лешча**
г. Пінск, Брэсцкая вобласць

**Bazyllion Roman Catholic Church in Leshcha suburb**
Pinsk, Brest region

Выгляд з боку р. Піны. Найстаражытнейшы на Беларусі праваслаўны манастыр, вядомы з 1262 г., з XVII ст. уніяцкі. Па цэнтры драўляная Успенская царква, пабудаваная ў стылі барока ў 1746 г. Манастыр не захаваўся. Літаграфія з малюнка 1868 г., на якім надпіс: «Лешча пад Пінскам. Стары кляштар, у якім хаваўся Войшалк — сын вялікага князя літоўскага Міндоўга, праследуемы сваім дзядзькам Трайнатам».



82

**Руіны замка ў прадмесці Каралін**
г. Пінск, Брэсцкая вобласць

**Ruins of the castle in Karalin suburb**
Pinsk, Brest region

Замак узведзены на беразе р. Піна ў канцы XVI ст. ў традыцыях новаітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы. У 2-й палове XVII ст. ім валодаў маршалак Вялікага княства Літоўскага Ян Дольскі, потым — князі Вішнявецкія. У ліпені 1660 г. ў час аблогі разбураны рускімі войскамі, у 1704 г. — войскамі шведскага караля Карла XII. Знік у пачатку XIX ст. ў працэсе пашырэння забудовы Пінска. Літаграфія з малюнка 1868 г.



83

**Сафійскі сабор і базыльянскі манастыр**
г. Полацк, Віцебская вобласць

**St. Sofia's Cathedral and Bazyllion Monastery**
Polatsk, Vitsebsk region

Выгляд з боку р. Заходняя Дзвіна. На высокім беразе будынак манастыра базыльян (не захаваўся) і Сафійскі сабор, пабудаваны ў 1738—1750 гг. ў стылі ракако архітэктарам І. К. Глаўбіцам на рэштках старажытнага храма 1044(50)—1066(60) гг. Сабор захаваўся. Літаграфія з малюнка 1875—1876 гг., на якім надпіс: «Палата і Дзвіна; Царква св. Сафіі; Полацк на Старым Замку — касцёл базыльян».



## 84

**Касцёл і кляштар езуітаў**
г. Полацк, Віцебская вобласць

**Jesuits Roman Catholic Church and Monastery**
Polatsk, Vitsebsk region

Барочны касцёл св. Стафана пабудаваны ў 1738 г. італьянскімі дойлідамі і адноўлены пасля пажару 1871 г. — трохнефавая крыжова-купальная базіліка з двухвежавым фасадам. На другім плане будынкі калегіума (з 1812 г. ператвораны ў езуіцкую акадэмію). Алоўкавы малюнак з акварэльнай падмалёўкай выкананы ў 1875—1876 гг. Захаваліся кляштарныя будынкі.

7 Зак. 2753



85

**Сядзіба Швыкоўскіх**
г. Пружаны, Брэсцкая вобласць

**Palace of Shvykousky**
Pruzhany, Brest region

Выгляд з боку пад'езда. Мураваны дом уяўляе складаную асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю з рызалітамі, чатырохграннай вежай, тэрасамі і аранжарэяй. На другім плане пейзажны парк. Пабудаваны ў 1854—1875 гг. паводле праекта архітэктара Ф. М. Ланці ў стылі неарэнесанса. Сядзіба захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1861—1877 гг. надпіс: «Пружаны. Губ. Гродзенская. Маёмасць Валенцiя Швыкоўскага».



## 86

**Палац** **Palace**

в. Прылукі, Мінскі раён Pryluki village, Minsk district

Двухпавярховы палац у стылі рэтраготыкі, фланкіраваны 4 гранёнымі вежачкамі з крэмальерамі, з рызалітам са стрэльчатымі аркадамі і вонкавымі сходамі; з правага боку вежа з галерэяй і стрэльчатымі праёмамі, пастаўленая на высокую тэрасу. Пабудаваны ў першай палове XIX ст. уладаром маёнтка вядомым аграномам О. Горватам. З 1872 г. належыць Г. Э. Чапскаму. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «1876 19 ліпеня. Прылукі. Рака Пціч. Губ. Мінская». Палац захаваўся.



87

**Сядзіба**
в. Пянюга, Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor**
Pianiuga village, Zelva district,
Grodna region

Выгляд з боку пад'езда. Драўляны і атынкаваны сядзібны дом пабудаваны на мяжы XVIII—XIX ст. пад уплывам стылю барока. Аднапавярховы будынак пад гонтавым ламаным вальмавым дахам са слуповым з трыльяжнай агароджай ганкам па цэнтры франтальнага фасада, з левага боку флігель, вакол пейзажны парк. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Пянюга 1 чэрвеня 1861 г. Сядзіба».



88

**Сядзібны парк**
в. Пянюга, Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor Park**
Pianiuga village, Zelva district,
Grodna region

Выгляд пейзажнага парку з сажалкай і плотам на першым плане, аднапавярховага свірна пад двухсхільным гонтавым дахам, з падсеннем — твора драўлянага дойлідства. З правага боку праглядаецца капліца са слуповым порцікам, з левага — фрагмент сядзібнага дома. Парк не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Пянюга 4 чэрвеня 1861».



89

**Сядзіба Дзяконьскіх**
в. Пятровічы, Жабінкаўскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Manor of Dziakonsky**
Piatrovichy village, Zhabinka district,
Brest region

Выгляд з боку р. Мухавец. Драўляны сядзібны дом пабудаваны ў 1830-я гг. ў стылі класіцызму. Аднапавярховы будынак з цэнтральнай мансардай і калонным ганкам, з левага боку аднапавярховы флігель пад вальмавым дахам, драўляны свіран пад паўвальмавым дахам, вакол пейзажны парк. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным сепіяй і гуашшу малюнку надпіс: «Пятровічы 11 лютага 1870. Губ. Гродзенская».



## 90

**Сядзіба Дзяконьскіх**
в. Пятровічы, Жабінкаўскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Manor of Dziakonsky**
Piatrovichy village, Zhabinka district,
Brest region

Выгляд з боку р. Мухавец. Драўляны дом пабудаваны ў 1830-я гг. ў стылі позняга класіцызму. Аднапавярховы будынак з калонным ганкам і мансардай над ім; з левага боку аднапавярховая афіцына і гаспадарчыя пабудовы, вакол пейзажны парк. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным сепіяй і акварэллю малюнку надпіс: «Пятровічы 11 лютага 1870. Рака Мухавец. Губ. Гродзенская. Сядзіба».



## 91

**Петра-Паўлаўскі касцёл**
в. Ражанка, Шчучынскі раён,
Гродзенская вобласць

**Roman Catholic Church of St. Peter and St. Paul**
Razhanka village, Shchuchyn district,
Grodna region

Мураваны храм з асіметрычна прыбудаванай вежай-званіцай, крыламі трансепта, пяціграннай апсідай. На першым плане чатырохслуповая званічка, злева — плябанія. Пабудаваны касцёл у 1674 г. Перабудаваны ў 1924—1925 гг. у неагатычным стылі. Касцёл дзейнічае. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1861—1877 гг. надпіс: «Ражанка фаміліі Пацаў. Губ. Гродзенская».



## 92

**Сядзіба Патоцкіх**
г.п. Рось, Ваўкавыскі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor of Patocky**
Ross township, Vaukavysk district,
Grodna region

Выгляд з боку пад'езда. Сядзібны дом пабудаваны ў пачатку XIX ст. ў стылі класіцызму. Драўляны аднапавярховы будынак з калонным порцікам у двухпавярховай сярэдняй частцы, крыты ламаным дахам; па абодва бакі аднапавярховыя афіцыны. Да сядзібы прылягае пейзажны парк. Не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Рось 7 чэрвеня 1877. Граф Стэфан Патоцкі. Губ. Гродзенская. Маёмасць графа Стэфана Патоцкага».



**93**

**Палац Сапегаў**
г.п. Ружаны, Пружанскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Sapega's Palace**
Ruzhany township, Pruzhany district,
Brest region

Уласнасць і рэзідэнцыя князёў Сапегаў. Пабудаваны ў 1784—1786 гг. ў пераходным стылі ад барока да класіцызму архітэктарам Я.С. Бекерам на аснове муроў папярэдняга палаца пачатку XVII ст. Малюнак не адпавядае рэальнаму стану палацавага комплексу, які пададзены мастаком абагульнена пад уплывам рамантычнага жывапісу XIX ст. Зруйнаваны падчас Вялікай Айчыннай вайны. Літаграфія з малюнка 1863 г.



94

**Палац Агінскіх**
в. Ручыца, Вілейскі раён, Мінская вобласць

**Palace of Aginsky**
Ruchytsa village, Vileika district, Minsk region

Пабудаваны ў маёнтку Ганута ў 1765 г. ў стылі ракако паводле праекта архітэктара Т. Жаброўскага (магчыма, А. Гену, Я Фантаны ці Русселя) трокскім ваяводам Т. Агінскім. У глыбіні малюнка палац, з левага боку «турэцкі» павільён, справа афіцына, вакол рэгулярны парк на беразе лукавіны р. Вілія. Акварэльны малюнак зроблены ў 1875—1877 гг., калі сядзіба належала Валенсу Ржавуцкаму. Палац не захаваўся.



95

**Палац Вайніловічаў**
в. Савічы, Капыльскі раён, Мінская вобласць

**Palace of Vainilovichy**
Savichy village, Kapyl district, Minsk region

Выгляд з боку пад'езда. Мураваны палац пабудаваны ў 1826 г. ў стылі класіцызму. Двухпавярховы будынак пад вальмавым дахам, з рызалітам. Першы паверх рызаліту меў выгляд галерэі, другі паверх вырашаны як лоджыя з трыма арачнымі праёмамі і трохвугольным франтонам. На другім плане пейзажны парк. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1864—1876 гг. надпіс: «31 ліпеня. Савічы. Эдвард Вайніловіч. Губ. Мінская».



## 96

| | |
|---|---|
| **Касцёл**<br>в. Сар'я, Верхнядзвінскі раён,<br>Віцебская вобласць | **Roman Catholic Church**<br>Sarya village, Verhniadzvinsk district,<br>Vitsebsk region |

Храм пабудаваны ў 1852—1857 гг. паводле праекта архітэктара Г. Шахта ў стылі рэтраготыкі ўладальнікам маёнтка дрысенскім маршалкам І. Лапацінскім як родавая пахавальня. У 1865 г. канфіскаваны «па прычыне прыгажосці». Вызначаецца інтэрпрэтацыяй сярэдневяковай архітэктуры так званай «палымянай готыкі». Касцёл захаваўся. На другім плане пейзажны парк панскай сядзібы. Літаграфія канца XIX ст.



97

**Палац Незабытоўскіх**
в. Сваротва, Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць

**Palace of Nezabytousky**
Svarotva village, Baranavichy district,
Brest region

Выгляд з боку пад'езда. Мураваны палац пабудаваны ў пачатку XIX ст. ў стылі ампір. Двухпавярховы будынак пад вальмавым дахам з бельведэрам. Сцены першага паверха былі аздоблены рустам. З правага боку двухпавярховы флігель-аранжарэя ў стылі ампір. На другім плане пейзажны парк. Палац не захаваўся. Акварэльны малюнак зроблены ў 1876 г., калі палац належаў графіне Патоцкай.



98

**Краявід мястэчка**
г.п. Свіслач, Гродзенская вобласць

**Township Landscape**
Svislach township, Grodna region

Агульны выгляд Гімназічнай плошчы. На першым плане фарны касцёл, заснаваны ў 1666 г., у 2-й палове XVIII ст. пабудаваны драўляны храм з рысамі стылю барока (не захаваўся). Перад храмам гадзіннікавая вежа (не захавалася). На другім плане будынак гімназіі, узведзены ў 1806 г. архітэктарам М. Шульцам (захаваўся), якую Н. Орда скончыў у 1823 г. У глыбіні алея, якая вяла да сядзібы графа В. Тышкевіча (захаваліся фрагменты парку). Літаграфія з малюнка 1868 г.



99

**Вуліца Брэсцкая** | **Brest Street**
г.п. Свіслач, Гродзенская вобласць | Svislach township, Grodna region

Агульны выгляд вуліцы з рэгулярнай сядзібнай драўлянай забудовай. У глыбіні дзве мураваныя брамы, паміж якімі капліца св. Анёлаў-ахоўнікаў — парадны ўезд у мястэчка з боку Брэста. Буйнейшая вуліца мястэчка адыходзіла ад цэнтральнай Рыначнай плошчы, трасіравана і забудавана пры графе В. Тышкевічы ў канцы XVIII ст. Забудова і капліца-брама не захаваліся. На алоўкавым малюнку 1868 г. надпіс: «Брэсцкая вуліца ў Свіслачы».



**100**

**Сядзіба Чацвярцінскіх** **Manor of Chatsviartsinsky**

г.п. Скідаль, Гродзенскі раён Skidal township, Grodna district

Выгляд з боку пад'езда. Класічны дом 1-й паловы XIX ст., які належаў стацкім саветнікам князям Канстанціну і Густаву Антонавічам Чацвярцінскім. Аднапавярховы П-падобны ў плане будынак пад вальмавым дахам з чатырохслуповым порцікам па цэнтры і бакавымі крыламі. Алоўкавы малюнак з акварэльнай падмалёўкай 1861—1877 гг. Захаваўся пейзажны парк з капліцай-пахавальняй.

8 Зак. 2753



## 101

**Сядзіба Нямцэвічаў** **Manor of Niamtsevichy**
в. Скокі, Брэсцкі раён Skoki village, Brest district

Сядзібны комплекс уключаў палац і парк. Палац з бакавымі флігелямі (афіцына і стайня) і плотам з брамай пабудаваны каля 1770 г. ў стылі барока на месцы папярэдняга драўлянага дома бацькоў пісьменніка Ю. У. Нямцэвіча Марцэля Нямцэвіча і Ядзвігі з Сухадольскіх. За палацам парк рэгулярнай планіроўкі. Сядзібны комплекс захаваўся без флігеляў. Літаграфія з малюнка 1861—1877 гг.



## 102

**Троіцкі манастыр**
г. Слуцк, Мінская вобласць

**Trinity Monastery**
Slutsk, Minsk region

Існаваў у XVII — пачатку XX ст. ў прадмесці Трайчаны. На першым плане двухвежавая царква. Пабудавана ў 1655—1660 гг. ў стылі барока, у сярэдзіне XVIII ст. разбурана, у 1786—1789 гг. адбудавана. На другім плане двухпавярховы манастырскі корпус у стылі ампір. Манастыр зруйнаваны ў 1930-х гадах. На малюнку 1864—1876 гг. надпіс: «Трайчаны. Манастыр закладзены пры князёўне Сафіі Алелькаўне Слуцкай, жонцы Януша Радзівіла».



103

**Касцёл і місіянерскі кляштар**
г.п. Смілавічы,
Чэрвеньскі раён, Мінская вобласць

**Roman Catholic Church and Missioners' Monastery**
Smilavichy township, Cherven district,
Minsk region

Кляштар заснаваны ў 1767 г., касцёл пабудаваны ў 1791 г. на сродкі памешчыцы М. Агінскай і гетмана М.К. Агінскага ў стылі барока, у 1867 г. перароблены на Троіцкую царкву. Двухвежавая, трохнефавая базіліка. З правага боку П-падобны ў плане двухпавярховы з бакавымі трохпавярховымі рызалітамі кляштарны будынак у стылі барока. Комплекс не захаваўся. Алоўкавы малюнак з акварэльнай падмалёўкай 1864—1876 гг.



## 104

**Сядзіба Кандратовічаў**
в. Смольгава, Любанскі раён,
Мінская вобласць

**Manor of Kandratovichy**
Smolgava village, Liuban district,
Minsk region

Сядзіба пабудавана ў пачатку XIX ст. пад уплывам стылю класіцызму: драўляны аднапавярховы дом з калонным ганкам, з левага боку гаспадарчыя пабудовы. Не захавалася. Літаграфія з малюнка 1864–1876 гг., на якім надпіс: «Смольгава. Губ. Мінская. Месца нараджэння паэта Людзвіка Кандратовіча, вядомага пад псеўданімам Уладзіслава Сыракомлі. Нарадзіўся 17 верасня 1822. Памёр у Вільні 15 верасня 1862 г.».



## 105

**Палац Рдултоўскіх–Харцінгаў**
в. Сноў, Нясвіжскі раён, Мінская вобласць

**Palace of Rdultousky–Kharting**
Snou village, Niasvizh district, Minsk region

Выгляд з боку пад'езда. Палац пабудаваны ў 1827 г. па праекту архітэктара Б. Тычэцкага ў стылі класіцызму. Аднапавярховы будынак з двухпавярховай сярэдняй часткай і высокім чатырохкалонным порцікам; па абодва бакі павільёны, аб'яднаныя з корпусам галерэямі-каланадамі. Палац захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1864–1876 гг. надпіс: «Сноў. Палац Рдултоўскіх; маёмасць Густава Харцінга. Палац збудаваны пры Рдултоўскіх».



## 106

**Сядзіба Любецкіх**
в. Станіслава,былы прыгарад,
цяпер вул. Ціміразева г. Гродна

**Palace of Liubecky**
Stanislavova village, former suburb
(now Tsimiraseva Street in Grodna)

Выгляд з боку пад'езда. Палац пабудаваны ў 1760—1770-я гг. ў стылі барока паводле праекта італьянскага архітэктара Дж. Сака. Аднапавярховы мураваны будынак з двухпавярховым цэнтральным рызалітам; па абодва бакі дзядзінца аднапавярховыя флігелі; вакол пейзажны парк. Сядзіба захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1861—1877 гг. надпіс: «28 ліпеня. Станіслава князя Любецкага. Гродна».



**107**

**Сядзіба Андрэйкавічаў**
в. Старынкі, Ваўкавыскі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor of Andreikavichy**
Starynki village, Vaukavysk district,
Grodna region

Выгляд з боку пад'езда. Драўляны аднапавярховы дом з чатырохкалонным порцікам. Пабудаваны ў пачатку XIX ст. ў стылі класіцызму. З левага боку аднапавярховая афіцына з калонным ганкам. Вакол пейзажны парк. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1861—1877 гг. надпіс: «Старынкі. Аляксандра Андрэйкавіча жонка Клатыльда».



## 108

**Сядзіба** **Manor**

в. Старыя Пескі, Бярозаўскі раён, Брэсцкая вобласць

Staryia Peski village, Biaroza district, Brest region

Выгляд з боку воз. Чорнае. Дом пабудаваны на мяжы XVIII—XIX ст. ў стылі класіцызму ў маёнтку графаў Пуслоўскіх. Аднапавярховы будынак з чатырохкалонным ганкам; з правага боку фрагмент двухпавярховай афіцыны з купалам і дабудаванай аранжарэяй ("павільён руж"), з левага боку вятрак. Вакол пейзажны парк, які захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным сепіяй і акварэллю малюнку надпіс: «Пескі 8 сакавіка 1865. Губ. Гродзенская. Сядзіба».



## 109

**Сядзіба Корсакаў**
в. Страла, Дзятлаўскі раён,
Гродзенская вобласць

**Manor of Korsaks**
Strala village, Dziatlava district,
Grodna region

Выгляд з боку пад'езда. Дом пабудаваны ў канцы XVIII ст. ў стылі класіцызму для каралеўскага камергера Яна Корсака і яго жонкі Караліны з Аскеркаў. Аднапавярховы будынак з калонным ганкам; з правага боку драўляны аднапавярховы флігель. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Страла 19 мая 1871. Маёмасць Юліяна Корсака, паэта, тут ён нарадзіўся і памёр, жонка Маскевіч».



**110**

**Сядзіба** — **Manor**

| | |
|---|---|
| **Сядзіба** | **Manor** |
| в. Туганавічы (цяпер в. Карчова), | Tuganavichy village (now Karchova village), |
| Баранавіцкі раён, | Baranavichy district, |
| Брэсцкая вобласць | Brest region |

Выгляд з боку пад'езда. Аднапавярховы сядзібны дома з мансардай і тэрасай на чатырох калонах і флігель з мураваным ганкам пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. ў стылі класіцызму. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «Туганавічы 24 ліпеня 1876. Тут жыў Міцкевіч, дзе пісаў для Марылі. Калісьці маёмасць фаміліі Верашчакаў. Зараз належыць роду Тугаyоўскіх».




## 111

**Сядзіба**
в. Туганавічы (цяпер в. Карчова),
Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць

**Manor**
Tuganavichy village (now Karchova village),
Baranavichy district, Brest region

Выгляд з боку пад'язной дарогі класічнага сядзібнага дома, на другім плане ўзнятая на пагорак драўляная капліца-пахавальня з чатырохкалонным порцікам, вакол пейзажны парк. Сядзіба не захавалася. Гравюра з малюнка Н. Орды, на якім надпіс: «23 ліпеня 1876. Камень і каханая бяроза. Тугановічы памятныя наведваннем Міцкевіча. Сафія Тугаоўская, Канстанцыя, Юзефа, Ядзвіга».



**112**

**Сядзіба**
в. Туганавічы (цяпер в. Карчова),
Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць

**Manor**
Tuganavichy village (now Karchova village),
Baranavichy district, Brest region

Выгляд гранёнай альтанкі на пагорку сярод пейзажнага парку, на другім плане флігель. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1876 г. надпіс: «Туганавічы. Бяроза, пасаджаная рукамі Міцкевіча, і камень, на якім ён сядзеў. Уласнасць Марыі з Верашчакаў Путкамераў».



## 113

**Выгляд горада**
г.п. Тураў, Жыткавіцкі раён,
Гомельская вобласць

**Town scenery**
Turau township, Zhytkavichy district,
Gomel region

Малюнак раскрывае панараму горада ў 1860-я гады з боку р. Прыпяць. У сілуэце пануюць архітэктурныя дамінанты драўляных цэркваў Праабражэнскай (1800 г., не захавалася) і Ільінскай (1851 г., захавалася ў перабудаваным выглядзе), пастаўленых на Замкавай гары на месцы мураванага храма XII ст. Злева манументальны драўляны будынак, верагодна, архіерэйскі палац. Літаграфія з малюнка каля 1868 г.



## 114

**Палац Сенажацкіх**
в. Турск, Рагачоўскі раён,
Гомельская вобласць

**Palace of Senazhatsky**
Tursk village, Ragachou district,
Gomel region

Выгляд з боку пад'езда. Палац пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. ў стылі класіцызму. Аднапавярховы будынак на падвальным паўпаверсе, з калонным порцікам у двухпавярховай сярэдняй частцы, калоннымі падсеннямі на бакавых крылах. Вакол пейзажны парк. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «24 жніўня 1877. Турск. Уладзіслаў Сенажацкі. Губ. Магілёўская. Уласнасць Уладзіслава Сенажацкага».



## 115

**Сядзіба Манюшкаў**
в. Убель, Чэрвеньскі раён, Мінская вобласць

**Maniushka's Manor**
Ubel village, Cherven district, Minsk region

Пабудавана сядзіба ў канцы XVIII ст. Па цэнтры драўляны дом пад ламаным дахам з чатырохслуповым мансардавым ганкам; з левага боку — драўляны свіран, у глыбіні капліца ў акружэнні пейзажнага парку. Парадны партэр акаймаваны драўляным плотам. Сядзіба не захавалася. На малюнку надпіс: «Убель. Дом, у якім нарадзіўся Станіслаў Манюшка 5 мая 1819. Памёр у Варшаве 4 чэрвеня 1872, меў 54 гады».



## 116

**Сядзіба Манюшкаў**
в. Убель, Чэрвеньскі раён, Мінская вобласць

**Maniushka's Manor**
Ubel village, Cherven district, Minsk region

Пабудавана сядзіба ў канцы XVIII ст. Па цэнтры драўляны дом пад ламаным дахам з двухслуповым мансардавым ганкам; з правага боку — драўляны свіран, у глыбіні капліца ў акружэнні пейзажнага парку. Парадны партэр акаймаваны драўляным плотам. Сядзіба не захавалася. Літаграфія з малюнка, на якім надпіс: «Убель. Дом, у якім нарадзіўся Станіслаў Манюшка 5 мая 1819. Памёр у Варшаве 4 чэрвеня 1872, меў 54 гады».

9 Зак. 2753



## 117

**Палац** | **Palace**
в. Хальч, Веткаўскі раён, | Halch village, Vetka district,
Гомельская вобласць | Gomel region

Выгляд з боку р. Сож. Палац пабудаваны ў пачатку XIX ст. ў стылі класіцызму. Двухпавярховы будынак з тэрасай і балконам у цэнтральным рызаліце, завершаным ступеньчатым атыкам. Вакол пейзажны парк. Палац захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку надпіс: «31 жніўня 1877. Хальч; рака Сож. Алякс. Сенажацкі ж. Тэрэза Цеханавецкая; Губ. Магілёўская; Маёмасць Аляксандра Сенажацкага».



## 118

**Вёска**
в. Чырвоная Рэчка, Гродзенская вобласць

**Village**
Chyrvonaya Rechka village,Grodna region

На першым плане вясковая забудова на высокім пагорку ля р. Чырвоная рэчка. З левага боку ў глыбіні двухвежавы касцёл з купалам і адасобленай званіцай. На алоўкавым малюнку 1861—1877 гг. надпіс: «Чырвоная Рэчка, 20 ліпеня».



## 119

**Сядзіба** **Manor**
в. Шаўры, Воранаўскі раён, Shaury village, Voranava district,
Гродзенская вобласць Grodna region

Выгляд з боку ракі. Сядзіба пабудавана ў 2-й палове XVIII ст. Аднапавярховы драўляны дом пад вальмавым дахам і слуповым ганкам; з правага боку флігель, з левага — гаспадарчы двор, абнесены драўляным плотам, вакол пейзажны парк. У маёнтку нарадзіліся гісторык і археолаг Т. Нарбут (1784—1864) і адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гг. Л.Т. Нарбут (1832—1863). Літаграфія канца XIX ст.



## 120

| Сядзіба | Manor |
| --- | --- |
| в. Юзафполь, Свіслацкі раён, | Yusafpol village, Svislach district, |
| Гродзенская вобласць | Grodna region |

Выгляд з боку пад'езда. Дом пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. ў стылі класіцызму. Аднапавярховы будынак пад вальмавым дахам, з ганкам у форме калоннага порціка. З правага боку фрагмент флігеля пад саламянай страхой і гаспадарчая забудова (драўляныя свірны), на другім плане пейзажны парк. Сядзіба не захавалася. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю і гуашшу малюнку надпіс: "Юзафполь 25 жніўня 1863. Губ. Гродзенская».



# 121

| | |
|---|---|
| **Палац Шчытаў** | **Palace of Shchyty** |
| в. Юстыянава, Верхнядзвінскі раён, Віцебская вобласць | Yustyianava village, Verhniadzvinsk district, Vitsebsk region |

Выгляд з боку р. Заходняя Дзвіна. Палац пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. паводле праекта архітэктара К. Спамнані ў стылі класіцызму. Двухпавярховы будынак з тэрасай, абапёртай на калонах пры сярэднім рызаліце. З правага боку капліца, з левага — купал вежы касцёла Прасвятой Тройцы. Вакол палаца пейзажны парк. Палац не захаваўся. На алоўкавым, падмаляваным акварэллю малюнку 1875—1876 гг. надпіс: «24 чэрвеня. Юстыніянаў. Шчыт Юстыніян жанаты на Багамолец; Станіслава Шадзерская».



## 122

**Свята-Духаўскі касцёл**
в. Язвіны, Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць

**Roman Catholic Church of Holy Spirit**
Yazviny village, Dragichyn district,
Brest region

Барочны мураваны храм пабудаваны ў 1750 г. Аднанефавы з паўкруглай апсідай, пад двухсхільным гонтавым дахам і чатырохгранным барабанам з цыбулепадобным купалам па цэнтры (зроблены пры перабудове храма пад праваслаўную царкву), фасад завершаны ўвагнута-выпуклым франтонам, сцены крапаваны пілястрамі, расчлянёны арачнымі вокнамі. Касцёл захаваўся. На алоўкавым малюнку надпіс: «8 чэрвеня 1861. Дзяды 1772».

## Спіс ілюстрацый



## Illustrations

16. в. Валынцы, Глыбоцкі раён,
Віцебская вобласць
Касцёл св. Ежы і кляштар дамініканцаў

17. в. Варацэвічы, Іванаўскі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба Ордаў

18. в. Варацэвічы, Іванаўскі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба Ордаў

19. в. Варонча, Карэліцкі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба

20. г. Віцебск
Васкрасенская царква, ратуша, бернардзінскі кляштар з касцёлам св. Антонія

21. г. Віцебск
Дабравешчанская царква

22. г. Высокае, Камянецкі раён,
Брэсцкая вобласць
Замкавая брама

23. в. Вялікае Мажэйкава, Шчучынскі раён,
Гродзенская вобласць
Палац

24. в. Гайна, Лагойскі раён, Мінская вобласць
Касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

25. в. Гайцюнішкі, Воранаўскі раён,
Гродзенская вобласць
Замак Рымшаў

26. в. Гальшаны, Ашмянскі раён,
Гродзенская вобласць
Замак Жабаў і руіны замка Сапегаў

27. г.п. Гарадзея, Нясвіжскі раён,
Мінская вобласць
Палац Брахоцкіх

28. в. Гарадзішча, Пінскі раён,
Брэсцкая вобласць
Касцёл св. Ганны і кляштар бенедыкцінцаў

29. в. Гароднія, Аршанскі раён,
Віцебская вобласць
Палац Васілеўскіх

16. Valyntsy village, Glybokaiye district,
Vitsebsk region
Roman Catholic Church of St. Yezhy and Dominican Monastery

17. Varatsevichy village, Ivanava district,
Brest region
Manor of Orda

18. Varatsevichy village, Ivanava district,
Brest region
Manor of Orda

19. Varoncha village, Karelichy district,
Grodna region
Manor

20. Vitsebsk
Church of Resurrection, town hall, Bernardinian Monastery on Roman Catholic Church St. Antony

21. Vitsebsk
Church of Annunciation

22. Vysokaye town, Kamianets district,
Brest region
Castle gates

23. Vialikaiye Mazheikava village,
Shchuchyn district, Grodna region
Palace

24. Gaina village, Lagoisk district, Minsk region
The Ascension of Holy Virgin Mary Roman Catholic Church

25. Gaitsiunishki village, Voranava district,
Grodna region
Castle of Rymshas

26. Galshany village, Ashmiany district,
Grodna region
Castle of Zhabas and Ruins of Sapega's Castle

27. Garadzeiya, Niasvizh district, Minsk region
Palace of Brahotsky

28. Garadzishcha village, Pinsk district,
Brest region
Roman Catholic Church of St. Anna and Benedict Convent

29. Garodnia village, Orsha district,
Vitsebsk region
Palace of Vasileusky

30. в. Гейстуны, Ашмянскі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба Адынцаў

31. в. Геранёны, Іўеўскі раён,
Гродзенская вобласць
Руіны замка Гаштольдаў, касцёл
св. Мікалая і палац Мілеўскіх

32. в. Геранімава, Гродзенская вобласць
Палац

33. в. Гнезна, Ваўкавыскі раён,
Гродзенская вобласць
Касцёл св. Міхала

34. г. Гомель
Палац Паскевічаў

35. г. Гродна
Новы Замак

36. г. Гродна
Барыса-Глебская (Каложская) царква

37. г. Гродна
Дом Макавельскай

38. г. Гродна
Дамініканская вуліца з гасцініцай Ромера

39. г. Гродна
Езуіцкі кляштар і касцёл св. Францыска

40. в. Грушаўка, Ляхавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба Рэйтанаў

41. в. Дашкаўка, Магілёўскі раён
Палац Жукоўскіх

42. в. Дзевяткавічы, Слонімскі раён,
Гродзенская вобласць
Палац Шлізняў

43. г. Дзяржынск (былое Койданава),
Мінская вобласць
Кальвінскі збор

44. в. Дзярэчын, Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць
Касцёл і кляштар дамініканцаў

45. г.п. Дзятлава, Гродзенская вобласць
Палац

30. Geistuny village, Ashmiany district,
Grodna region
Manor of Adynets

31. Geranieny village, Iuye district,
Grodna region
Gashtold's Castle Ruins, St. Michael Roman
Catholic Church and the Palace of Mileusky

32. Geranimava village, Grodna region
Palace

33. Gnezna village, Vaukavysk district,
Grodna region
Roman Catholic Church of St. Mihal

34. Gomel
Palace of Paskevich

35. Grodna
Novy Castle

36. Grodna
The Church of St. Boris and St. Gleb

37. Grodna
House of Makavelskaya

38. Grodna
Dominican Street with Romer's Hotel

39. Grodna
Jesuits Monastery and Roman Catholic
Church of St. Franzisk

40. Grushauka village, Liahavichy district,
Brest region
Manor of Reitan's

41. Dashkauka village, Magileu district
Palace of Shukousky

42. Dzeviatkavichy village, Slonim district,
Grodna region
Palace of Shlizni

43. Dziarzhynsk (former Koidanava),
Minsk region
Calvinist Monastery

44. Dziarechyn village, Zelva district,
Grodna region
Dominican Roman Catholic Church
and Monastery

45. Dziatlava town, Grodna region
Palace

46. в. Дубае, Пінскі раён, Брэсцкая вобласць
Сядзіба

47. в. Дукора, Пухавіцкі раён,
Мінская вобласць
Палац Ашторпаў

48. в. Жамыслаўль, Іўеўскі раён,
Гродзенская вобласць
Палац Умястоўскіх

49. в. Жамыслаўль, Іўеўскі раён,
Гродзенская вобласць
Палац Умястоўскіх

50. в. Жукаў Барок, Стаўбцоўскі раён,
Мінская вобласць
Краявід вёскі

51. в. Жылічы, Кіраўскі раён,
Магілёўская вобласць
Палац Булгакаў

52. хут. Завоссе, Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба Міцкевічаў

53. в. Закозель, Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба Ажэшкаў

54. г. Іванава, Брэсцкая вобласць
Парафіяльны касцёл св. Крыжа

55. в. Івашкавічы, Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба Астрамецкіх

56. в. Ішкалдзь, Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць
Троіцкі касцёл

57. г. Камянец, Брэсцкая вобласць
Белая вежа

58. г. Косава, Івацэвіцкі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба Касцюшкаў

59. в. Краснікі, Берастэвіцкі раён,
Гродзенская вобласць
Касцёл св. Міхаіла і Марыі Магдаліны

60. в. Крэва, Смаргонскі раён,
Гродзенская вобласць
Руіны замка

46. Dubaiye village, Pinsk district, Brest region
Manor

47. Dukora village, Pukhavichy district,
Minsk region
Palace of Ashtorpay's

48. Zhamyslaul village, Iuye district,
Grodna region
Palace of Umiastousky

49. Zhamyslaul village, Iuye district,
Grodna region
Palace of Umiastousky

50. Zhukau Barok village, Staubtsy district,
Minsk region
Villain scenery

51. Zhylichy village, Kirau district,
Magileu region
Palace of Bulgaki

52. Zavosse stead, Baranavichy district,
Brest region
Manor of Mitskevichy

53. Zakozel village, Dragichyn district,
Brest region
Manor of Azheshkay

54. Ivanava, Brest region
Roman Catholic Church of St. Cross

55. Ivashkavichy village, Zelva district,
Grodna region
Manor of Astrametsky

56. Ishraldz village, Baranavichy district,
Brest region
Roman Catholic Church of Holy Trinity

57. Kamianets, Brest region
Belaya Vezha (White Tower)

58. Kosava, Ivatsevichy district, Brest region
Manor of Kastsiushka

59. Krasniki village, Berastavitsa district,
Grodna region
Roman Catholic Church of St. Michael
and Maria Magdalene

60. Kreva village, Smargon district,
Grodna region
Ruins of the Castle

61. г. Лагойск, Мінская вобласць
Палац Тышкевічаў

62. г. Ліда, Гродзенская вобласць
Замак

63. в. Лыскава, Пружанскі раён,
Брэсцкая вобласць
Надмагілле Францішка Карпінскага

64. г. Магілёў

65. в. Магільна (цяпер в. Нёман),
Уздзенскі раён, Мінская вобласць
Сядзіба

66. в. Масальшчына, Магілёўскі раён
Палац Цеханавецкіх

67. в. Масаляны, Бераставіцкі раён,
Гродзенская вобласць
Палац Біспінгаў

68. г. Мінск
Касцёл і кляштар езуітаў

69. г.п. Мір, Карэліцкі раён,
Гродзенская вобласць
Замак

70. в. Моладава, Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць
Палац Скірмунтаў

71. в. Моладава, Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць
Палац Скірмунтаў

72. в. Муравана, Бераставіцкі раён,
Гродзенская вобласць
Палац Ваўкавіцкіх

73. г. Навагрудак, Гродзенская вобласць
Руіны замка і фарны касцёл

74. г. Навагрудак, Гродзенская вобласць
Сядзіба Міцкевіча

75. в. Навашыно, Карэліцкі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба

76. в. Нізоўцы, Шклоўскі раён,
Магілёўская вобласць
Сядзіба

61. Lagoisk, Minsk region
Palace of Tyshkevich

62. Lida, Grodna region
Castle

63. Lyskava village, Pruzhany district,
Brest region
Tomb of Franzishak Karpinsky

64. Magileu

65. Magilna village (now Neman village),
Uzda district, Minsk region
Manor

66. Masalshchyna village, Magileu district
Palace of Tsekhanavetsky

67. Masaliany village, Berastavitsa district,
Grodna region
Palace of Bispingy

68. Minsk
Jesuits Roman Catholic Church and Monastery

69. Mir township, Karelichy district,
Grodna region
Castle

70. Moladava village, Dragichyn district,
Brest region
Palace of Skirmunt's

71. Moladava village, Dragichyn district,
Brest region
Palace of Skirmunt's

72. Muravana village, Berastavitsa district,
Grodna region
Palace of Vaukavitsky

73. Navagrudak, Grodna region
Ruins of the castle and Farny Roman Catholic
Church

74. Navagrudak, Grodna region
Manor of Mickevich

75. Navashyno village, Karelichy district,
Grodna region
Manor

76. Nizoutsy village, Shklou district,
Magileu region
Manor

77. г. Нясвіж, Мінская вобласць
Замак Радзівілаў

78. в. Обрын, Навагрудскі раён,
Гродзенская вобласць
Палац

79. в. Паланэчка, Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць
Палац Радзівілаў

80. в. Парэчча, Пінскі раён,
Брэсцкая вобласць
Фабрыка сукна

81. г. Пінск, Брэсцкая вобласць
Базыльянскі манастыр у прадмесці Лешча

82. г. Пінск, Брэсцкая вобласць
Руіны замка ў прадмесці Каралін

83. г. Полацк, Віцебская вобласць
Сафійскі сабор і базыльянскі манастыр

84. г. Полацк, Віцебская вобласць
Касцёл і кляштар езуітаў

85. г. Пружаны, Брэсцкая вобласць
Сядзіба Швыкоўскіх

86. в. Прылукі, Мінскі раён
Палац

87. в. Пянюга, Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба

88. в. Пянюга, Зэльвенскі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзібны парк

89. в. Пятровічы, Жабінкаўскі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба Дзяконьскіх

90. в. Пятровічы, Жабінкаўскі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба Дзяконьскіх

91. в. Ражанка, Шчучынскі раён,
Гродзенская вобласць
Петра-Паўлаўскі касцёл

92. г.п. Рось, Ваўкавыскі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба Патоцкіх

77. Niasvizh, Minsk region
Castle of Radzivil's

78. Obryn village, Navagrudak district,
Grodna region
Palace

79. Palanechka village, Baranavichy district,
Brest region
Palace of Radzivil's

80. Parecha village, Pinsk district, Brest region
Textile workshop

81. Pinsk, Brest region
Bazyllion Roman Catholic Church in Leshcha suburb

82. Pinsk, Brest region
Ruins of the castle in Karalin suburb

83. Polatsk, Vitsebsk region
St. Sofia's Cathedral and Bazyllion Monastery

84. Polatsk, Vitsebsk region
Jesuits Roman Catholic Church and Monastery

85. Pruzhany, Brest region
Palace of Shvykousky

86. Pryluki village, Minsk district
Palace

87. Pianiuga village, Zelva district, Grodna region
Manor

88. Pianiuga village, Zelva district, Grodna region
Manor Park

89. Piatrovichy village, Zhabinka district,
Brest region
Manor of Dziakonsky

90. Piatrovichy village, Zhabinka district,
Brest region
Manor of Dziakonsky

91. Razhanka village, Shchuchyn district,
Grodna region
Roman Catholic Church of St. Peter and St. Paul

92. Ross township, Vaukavysk district,
Grodna region
Manor of Patocky

**93.** г.п. Ружаны, Пружанскі раён,
Брэсцкая вобласць
Палац Сапегаў

**94.** в. Ручыца, Вілейскі раён, Мінская вобласць
Палац Агінскіх

**95.** в. Савічы, Капыльскі раён,
Мінская вобласць
Палац Вайніловічаў

**96.** в. Сар'я, Верхнядзвінскі раён,
Віцебская вобласць
Касцёл

**97.** в. Сваротва, Баранавіцкі раён,
Брэсцкая вобласць
Палац Незабытоўскіх

**98.** г.п. Свіслач, Гродзенская вобласць
Краявід мястэчка

**99.** г.п. Свіслач, Гродзенская вобласць
Вуліца Брэсцкая

**100.** г.п. Скідаль, Гродзенскі раён
Сядзіба Чацвярцінскіх

**101.** в. Скокі, Брэсцкі раён
Сядзіба Нямцэвічаў

**102.** г. Слуцк, Мінская вобласць
Троіцкі манастыр

**103.** г.п. Смілавічы, Чэрвеньскі раён,
Мінская вобласць
Касцёл і місіянерскі кляштар

**104.** в. Смольгава, Любанскі раён,
Мінская вобласць
Сядзіба Кандратовічаў

**105.** в. Сноў, Нясвіжскі раён, Мінская вобласць
Палац Рдултоўскіх—Харцінгаў

**106.** в. Станіславова, былы прыгарад,
цяпер вул. Ціміразева, г. Гродна
Сядзіба Любецкіх

**107.** в. Старынкі, Ваўкавыскі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба Андрэйкавічаў

**108.** в. Старыя Пескі, Бярозаўскі раён,
Брэсцкая вобласць
Сядзіба

**93.** Ruzhany township, Pruzhany district,
Brest region
Sapega's Palace

**94.** Ruchytsa village, Vileika district, Minsk region
Palace of Aginsky

**95.** Savichy village, Kapyl district, Minsk region
Palace of Vainilovichy

**96.** Sarya village, Verhniadzvinsk district,
Vitsebsk region
Roman Catholic Church

**97.** Svarotva village, Baranavichy district,
Brest region
Palace of Nezabytousky

**98.** Svislach township, Grodna region
Township Landscape

**99.** Svislach township, Grodna region
Brest Street

**100.** Skidal township, Grodna district
Manor of Chatsviartsinsky

**101.** Skoki village, Brest district
Manor of Niamtsevichy

**102.** Slutsk, Minsk region
Trinity Monastery

**103.** Smilavichy township, Cherven district,
Minsk region
Roman Catholic Church
and Missioners' Monastery

**104.** Smolgava village, Liuban district,
Minsk region
Manor of Kandratovichy

**105.** Snou village, Niasvizh district, Minsk region
Palace of Rdultousky—Kharting

**106.** Stanislavova village, former suburb
(now Tsimiraseva Street in Grodna)
Palace of Liubecky

**107.** Starynki village, Vaukavysk district,
Grodna region
Manor of Andreikavichy

**108.** Staryia Peski village, Biaroza district,
Brest region
Manor

109. в. Страла, Дзятлаўскі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба Корсакаў

110. в. Туганавічы (цяпер в. Карчова),
Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць
Сядзіба

111. в. Туганавічы (цяпер в. Карчова),
Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць
Сядзіба

112. в. Туганавічы (цяпер в. Карчова),
Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць
Сядзіба

113. г.п. Тураў, Жыткавіцкі раён,
Гомельская вобласць
Выгляд горада

114. в. Турск, Рагачоўскі раён,
Гомельская вобласць
Палац Сенажацкіх

115. в. Убель, Чэрвеньскі раён,
Мінская вобласць
Сядзіба Манюшкаў

116. в. Убель, Чэрвеньскі раён,
Мінская вобласць
Сядзіба Манюшкаў

117. в. Хальч, Веткаўскі раён,
Гомельская вобласць
Палац

118. в. Чырвоная Рэчка, Гродзенская вобласць
Вёска

119. в. Шаўры, Воранаўскі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба

120. в. Юзафполь, Свіслацкі раён,
Гродзенская вобласць
Сядзіба

121. в. Юстыянава, Верхнядзвінскі раён,
Віцебская вобласць
Палац Шчытаў

122. в. Язвіны, Драгічынскі раён,
Брэсцкая вобласць
Свята- Духаўскі касцёл

109. Strala village, Dziatlava district,
Grodna region
Manor of Korsaks

110. Tuganavichy village (now Karchova village),
Baranavichy district, Brest region
Manor

111. Tuganavichy village (now Karchova village),
Baranavichy district, Brest region
Manor

112. Tuganavichy village (now Karchova village),
Baranavichy district, Brest region
Manor

113. Turau township, Zhytkavichy district,
Gomel region
Town scenery

114: Tursk village, Ragachou district,
Gomel region
Palace of Senazhatsky

115. Ubel village, Cherven district, Minsk region
Maniushka's Manor

116. Ubel village, Cherven district, Minsk region
Maniushka's Manor

117. Halch village, Vetka district, Gomel region
Palace

118. Churvonaya Rechka village, Grodna region
Village

119. Shaury village, Voranava district,
Grodna region
Manor

120. Yusafpol village, Svislach district,
Grodna region
Manor

121. Yustyianava village, Verhniadzvinsk district,
Vitsebsk region
Palace of Shchyty

122. Yazviny village, Dragichyn district,
Brest region
Roman Catholic Church of Holy Spirit

**БЕЛАРУСЬ**
**у малюнках**
**НАПАЛЕОНА ОРДЫ**
***Другая палова XIX стагоддзя***

Укладальнікі:
*КУЛАГІН Анатоль Мікалаевіч*
*ГЕРАСІМОВІЧ Уладзімір Анатольевіч*

Мінск, выдавецтва «Ураджай»
На беларускай і англійскай мовах

Рэдактар *У. А. Герасімовіч*
Пераклад на англійскую мову *А. М. Нікіфаравай*
Рэдактар замежнага тэксту *С. В. Трафімук*
Мастак *А. М. Хількевіч*
Мастацкае рэдагаванне, камп'ютэрная апрацоўка ілюстрацый *У. В. Перліна*
Тэхнічны рэдактар *Г. М. Хейфец*
Карэктары *Л. К. Місуна, Ю. А. Паўлюкевіч*
Заг. камп'ютэрным аддзелам *Г. Л. Гутырчык*
Камп'ютэрная вёрстка *В. А. Дыбчук*

Падпісана да друку 28.09.2001. Фармат 84х108 $^1/_{16}$. Папера афс. № 1.
Гарнітура Гарамонд. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 15,12. Ул.-выд. арк. 13,4. Тыраж 3000 экз. Заказ 2753
Падаткавая льгота –Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1;22.11.20.600.
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Ураджай"» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 8 ад 16.08.2000. 220048, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"». 220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.




Напалеон Орда на шматлікіх сваіх малюнках адлюстраваў непаўторную жывапісную панараму Беларусі з яе прыгожымі архітэктурна-ландшафтнымі краявідамі, творамі дойлідства — гарадской, местачковай і вясковай забудовай, храмамі і палацамі.

Мастацкая спадчына Орды ўяўляе сабой абагульнены вобраз Бацькаўшчыны.

ISBN 985-04-0497-3

